

З КАЛЯДАМІ!

# Рэгіянальная газета. Rh.by

rg_rhby
rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

8 студзеня 2021 года №2 (1341) 18+

# Рамуальда Улана асудзілі на два з паловай гады за паклёп на міліцыянераў

старонка 20

Падтрымаць прадпрымальніка і былога ўладальніка «Новай газеты Смаргоні» прыйшло некалькі дзясяткаў чалавек. Гэта прыватная газета выходзіла ад 1996 да 2003 года.

Фота Настассі УТКІНАЙ.

Каляндар рэлігійных канфесій на 2021 год старонка 18

Да 85-годдзя гісторыка Генадзя Каханоўскага друкуем яго лісты ад 1985 года старонка 17

У нашых руках напоўніць свет сэнсам, пакуль дыханне не растварылася ў паветры. «Таршэр» з загадчыкам псіханеўралагічнага дыспансера ў Маладзечне Аляксандрам Бажко старонка 19

Пагутарылі з беларускамоўнай кандуктаркай з Маладзечна старонка 8

ISSN 1991–7155



Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by



## Начальнік аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі сышоў з пасады

ВІЛЕЙКА

Пра гэта Сяргей Фёдаравіч расказаў карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты».

– Вырашыў скарыстаць сваё права сысці па выслузе гадоў, – падзяліўся суразмоўца. – На дзяржаўнай службе я ўжо больш за 20 год. Магчыма, варта праявіць сябе ў іншай дзейнасці.

Ад 2003 года Сяргей Паўлоўскі загадваў аддзелам культуры. Ад 2013 – аддзелам ідэалогіі, культуры і па справах моладзі Вілейскага райвыканкама.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Прызначылі намесніка старшыні райвыканкама па сацыяльнай галіне

ВІЛЕЙКА

На пасадзе цяпер працуе **Людміла Сляпцова**.

Раней на гэтым месцы працавала **Святлана Дзяруга**. Яна пакінула пасаду ў лістападзе.

Людміла Сляпцова да прызначэння ўзначальвала Вілейскі тэрытарыяльны цэнтр сацабслугоўвання насельніцтва. Таксама Людміла Міхайлаўна – дэпутат, намеснік старшыні раённага Савета дэпутатаў, старшыня камісіі па сацыяльных пытаннях у Савеце.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Дырэктар школы №14, кіраўніцтва райвыканкама атрымалі падзякі ад Лукашэнкі

МАЛАДЗЕЧНА

Старшыня Мінаблвыканкама **Аляксандр Турчын** 30 снежня ўручыў дзяржаўныя ўзнагароды і падзякі ад Аляксандра Лукашэнкі. Цырымонія ўзнагароджання адбылася ў Нацыянальным мастацкім музеі. Сярод узнагароджаных ёсць прадстаўнікі Маладзечна.

Гэта кіраўніцтва Маладзечанскага райвыканкама, а таксама член Савета Рэспублікі, дырэктар сярэдняй школы №14 горада Маладзечна **Каліна Капуцкая**. Яна прызналася, што такая ацэнка працы, заахвочванне вельмі прыемныя і матывуюць.

**Паводле БелТА.**

# Як і чаму школа ў Ілы стала «зялёнай»

ВІЛЕЙКА

**У канцы мінулага года Ільянская сярэдняя школа імя Грымаця атрымала Дыплом другой ступені «Зялёная школа» ў рэспубліцы і адпаведны статус.**



Акцыя па прыборцы школьнага двара.

### Як усё пачыналася

Праграму «Зялёныя школы» адаптавалі для Беларусі ў рамках праекта Праграмы развіцця ААН «Павышэнне экалагічнай інфармаванасці моладзі праз установу і развіццё «Зялёных школ» у Беларусі», што фінансуецца Еўрапейскім саюзам. У Беларусі выканаўцам праекта стала Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. За адзін год працы распрацавалі метадычныя матэрыялы, правялі навучальныя семінары для настаўнікаў і экскурсіі для школьнікаў. Праект завяршыўся 31 снежня 2010 года, але займеў працяг. У 2013 годзе палажэнне аб рэалізацыі праекта «Зялёныя школы» падпісалі прадстаўнікі Міністэрства адукацыі і прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь. Такім чынам у Беларусі з'явілася новая мадэль экалагічнай адукацыі. Стаць удзельнікам экалагічнага руху прапанавалі любой школе, школьнаму лясніцтву, а таксама цэнтрам пазашкольнай работы, экалагічнаму цэнтру для дзяцей і юнацтва Беларусі.

### Чаму ільянцы змагаліся за статус «Зялёная школа»

У Ільянскай сярэдняй школе імя Грымаця вучні, іх бацькі і настаўнікі з 2012 года ўдзельнічаюць у праекце «Сістэма экалагічнага менеджменту», а ад 1 верасня 2019 года школа рэалізуе педагагічны праект «Развіццё экалагічнай кампетэнтнасці вучняў на аснове стратэгіі ўстойлівага развіцця». Таму ад верасня 2019 года мы з задавальненнем уключыліся ў працу па атрыманні статусу «Зялёная школа». Лічым, што праект з'яўляецца лагічным працягам сістэмы работы па экалагічным выхаванні вучняў і спрыяе выхаванню моладзі, рыхтуе яе да практычнага ўдзелу ў паляпшэнні стану навакольнага асяроддзя, да вырашэння экалагічных праблем.

### Як працавалі творчыя групы

У школе стварылі аб'яднанні настаўнікаў і вучняў па інтарэсах – клуб «Школьны Экаград», цэнтр энергазберажэння «Гаспадар», прэс-цэнтр. Праводзілі заняткі па інтарэсах па праграмах «Асновы даследчай дзейнасці вучняў па хіміі», «Экалогія і мы», факультатыўныя заняткі па праграмах «Энергія і навакольнае асяроддзе», «Устойлівае развіццё», «Я, энергія і навакольнае асяроддзе».

Творчая каманда настаўнікаў з вучнямі школы арганізавала і правяла шмат мерапрыемстваў па павышэнні экалагічнай кампетэнтнасці вучняў і работнікаў школы. Настаўніца біялогіі і геаграфіі **Анастасія Дземідкевіч** каардынавала кірункі «Біяразнастайнасць» і «Якасць атмасфернага паветра». Вучні 9 класа з класным кіраўніком **Святланай Юшко** і першакласнікі са сваёй настаўніцай **Таццянай Максімовіч** выконвалі заданні кірунку «Энергазберажэнне», вывучалі, як выкарыстоўваецца ў школе цяпло і электраэнергія.

За раздзел «Водазберажэнне» адказвалі васьмікласнікі са сваім класным кіраўніком **Аленай Акуліч**. А сёмы клас пад кіраўніцтвам педагога **Аксаны Шушкевіч** вучыў дарослых і дзяцей, як абыходзіцца з адходамі.



Вынікі даследаванняў вучні паказваюць дырэктару школы Ігару Юшко.

Настаўніца хіміі **Зоя Кіпель** узначаліла кірунак дзейнасці «Інфармацыйна-экалагічныя мерапрыемствы па працы з мясцовай грамадскасцю».

За час працы вучні школы вывучылі відавую разнастайнасць абарыгенных дрэў і кустоў, птушак на тэрыторыі школы, размясцілі кармушкі на школьным двары, рэгулярна кармілі птушак зімой, прааналізавалі эфектыўнасць выкарыстання энергіі і вады ў школе, склалі план дзеянняў па зберажэнні цяпла і электраэнергіі ў школе на год, пазнаёмілі з ім кіраўніцтва школы. Таксама ўдзельнікі праекта з дапамогай метадаў біяіндыкацыі – выкарыстання індыкатараў – высветлілі, наколькі забруджанае паветра ў мікрараёне школы, і даведаліся прычыны забруджвання. Масава прайшлі экалагічныя акцыі «Чыстая рака» і «Дрэва замест букета».

### Экалагічнае выхаванне як лад жыцця школы

Для атрымання дыплома «Зялёная школа» мы прадставілі анкету і справаздачу аб праекце па шасці кірунках дзейнасці ў абласны рэсурсны цэнтр Мінскай вобласці і размясцілі яго на афіцыйным сайце установы адукацыі ва ўкладцы «Зялёная школа».

У снежні 2020 года Ільянскую сярэднюю школу імя Грымаця ўзнагародзілі Дыпломам «Зялёная школа» другой ступені за дзейнасць па рэалізацыі праекта.

Наша школа стала адной з нямногіх установаў адукацыі ў Беларусі, якія маюць спецыяльны сертыфікат «Зялёнай школы». А праца педагогаў па экалагічным выхаванні вучняў працягваецца, таму што гэта становіцца ўжо ладам жыцця школы.

**Алена МІХАЛЁНАК,**
**намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаця.**
**Фотаздымкі забяспечаныя аўтарам.**

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# Як у Германіі разлічваюцца пенсіі і адкуль на гэта бяруць грошы

**Ад 1 студзеня ў Беларусі на паўгода вырас пенсійны ўзрост – гэта чарговае планавае паэтапнае павышэнне: для мужчын – 62 гады і 6 месяцаў, а для жанчын – 57 гадоў і 6 месяцаў. «Рэгіянальная газета» паглядзела на прыкладзе Германіі, колькі атрымліваюць нямецкія пенсіянеры і адкуль там бяруцца грошы на пенсіі.**


Фота Настассі УТКІНАЙ.

У немцаў пенсія залежыць нават ад колькасці дзяцей і службы ў арміі.

У ліпені 2019 года ў Германіі адбылося апошняе павышэнне пенсій. На захадзе Германіі – на 3,18%, а на ўсходзе – на 3,91%. Гэтыя лічбы залежаць ад індэксацыі, якая разлічваецца немцамі па складанай формуле. У мінулым годзе ў Германіі павелічэнне пенсій абагнала рост заробкаў, але гэта не адзіная асаблівасць пенсійнай сістэмы ў Германіі.

### «Пакт пакаленняў» у Германіі

Германія была першай краінай у свеце, якая ўвяла дзяржаўную сістэму сацыяльнага страхавання. Гэта адбылося напрыканцы 19 стагоддзя падчас кіравання Германіяй Ота фон Бісмарка. Асноўны прынцып той сістэмы захаваўся дагэтуль. Гэта – «пакт пакаленняў»: усе, хто працуе, забяспечваюць тых, хто выйшаў на пенсію, адлічваючы пэўны працэнт свайго штомесячнага заробку ў дзяржаўны пенсійны фонд.

Гэты фонд не акумулюе і не ўкладвае сродкі, а адразу налічвае пенсіянерам. Гэта значыць, дзейнічае мадэль прамога і непасрэднага пераразмеркавання даходаў.

На працягу першых некалькіх дзесяцігоддзяў салідарнасць пакаленняў у Германіі была даволі трывалая, бо заставалася нескладанай.

У 1891 годзе памер адлічэнняў працоўных у германскі пенсійны фонд складаў усяго 1,7% штомесячнага заробку. У 1924 годзе – 3,5%, у 1928-м – 5,5, у 1949-м – 10. Гэтага пры высокім узроўні занятасці і сціплай працягласці жыцця хапала на тое, каб забяспечваць нямецкім сталым людзям прымальны ўзровень жыцця.

### Як фінансуецца пенсійны фонд у ФРГ

Сітуацыя змянілася ў апошнія пару дзесяцігоддзяў мінулага стагоддзя, калі Германія (асабліва пасля аб'яднання) сутыкнулася з эканамічнымі і дэмаграфічнымі праблемамі. Стала больш беспрацоўных, якім няма з чаго рабіць адлічэнні ў пенсійны фонд, скарацілася нараджальнасць і адначасова значна ўзрасла працягласць жыцця.

Гэта значыць, што ўсё меншай колькасці працоўных прыходзілася ўтрымліваць усё большую колькасць пенсіянераў. У выніку на рубяжы стагоддзяў памер пенсійных адлічэнняў у ФРГ прыйшлося падняць да ~20%.

Такія адлічэнні робяць усе працоўныя ў Германіі, але не з усяго заробку. Існуе ліміт, які ўсталёўвае закон: на захадзе краіны гэта цяпер 6500 еўра, у новых федэральных землях – 5800. Усё, што зверх гэтых сум, пенсійным падаткам не абкладаецца. Гэты ліміт урад час ад часу паднімае.

### Работнік і працадаўца адлічваюць пароўну грошы ў пенсійны фонд

Палову ўнёску працаўніка ў пенсійны фонд выплачвае яго працадаўца. Пенсійны фонд атрымлівае істотныя датацыі з дзяржаўнага бюджэту. На гэтыя мэты накіроўваюць частку збораў ад падатку на дабаўленую вартасць і спецыяльнага падатку на мінеральнае паліва, званага «экалагічным».

Па прагнозах экспертаў, у 2021 годзе датацыі пенсійнаму фонду з дзяржбюджэту перавысяць 100 мільярдаў еўра. Гэта стане адным з вынікаў прынятага ў 2018 годзе «пенсійнага пакета»: урад гарантуе, што да 2025 года пенсіі ў краіне не апусцяцца ніжэй за 48% заробку, а адлічэнні ў пенсійны фонд застануцца ў межах 20%. Што будзе потым, залежыць ад нямецкай дэмаграфіі і эканомікі.

### Як разлічваецца нямецкая пенсія

Разлік пенсіі ў Германіі – гэта «вышэйшая матэматыка», даступная вузкаму колу спецыялістаў, на якіх трэба вучыцца тры гады. Пры гэтым улічваецца не толькі працоўны стаж і памер адлічэнняў, але і ўзрост таго, хто выходзіць на пенсію, перыяд вучобы, наяўнасць дзяцей, адпачынак па доглядзе за дзіцем, служба ў арміі і іншыя жыццёвыя абставіны. Гэтыя дадзеныя і катэгорыі пералічваюцца ў так званыя «пенсійныя балы», а потым – у канкрэтныя сумы.

У Германіі ёсць паняцце «базавы пенсіянер» – умоўны чалавек, які адпрацаваў 45 год за сярэдні заробак, выйшаў на пенсію па дасягненні ўзросту. У Германіі ён павялічваецца, а ў 2029 годзе складзе 67 год.

Так званая стандартная пенсія – 1441 еўра на захадзе і 1381 еўра на ўсходзе. Аднак гэта не сярэдняя для Германіі велічыня.

У 2018 годзе пенсіянеры-мужчыны атрымлівалі ў сярэднім на захадзе па 1095 еўра ў месяц, на ўсходзе – 1198 еўра. Пенсіянеркі на захадзе атрымлівалі – 622 еўра, на ўсходзе – 928. Больш высокія выплаты на ўсходзе Германіі тлумачацца тым, што жыхары былой ГДР маюць вялікі працоўны стаж.

### Нямецкія пенсіі трох відаў

Дзяржаўная пенсія – гэта толькі адзін з элементаў сацыяльнага забеспячэння жыхароў Германіі ў сталасці. Амаль палова пенсіянераў атрымліваюць грошы ад былога працадаўцы. Большасць буйных нямецкіх фірм і канцэрнаў, грамадска-прававых кампаній, дзяржаўных прадпрыемстваў і ведамстваў забяспечваюць сваіх былых работнікаў дадатковымі пенсіямі. У некаторых выпадках іх памер дазваляе пенсіянеру на 90% захаваць ранейшы ўзровень жыцця.

Ёсць і сістэма прыватнага пенсійнага страхавання. 42 мільёны немцаў заключылі дамовы, якія прадугледжваюць альбо аднаразовыя, альбо рэгулярныя выплаты па дасягненні імі пенсійнага ўзросту.

**Настасся УТКІНА**
**па матэрыялах Deutsche Welle.**

---

**ЛІЧБА НУМАРА**

**3 100**

столькі ялінак у кадках прадалі перад святамі ў Беларусі

**Паводле Мінлясгаса.**

---

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 30.12 | 6.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5708 | **2.5821** |
| Еўра | 3.1492 | **3.1703** |
| Злоты, 10 | 6.9898 | **6.9727** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4916 | **3.4631** |
| Грыўня, 100 | 9.0917 | **9.0927** |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **29.12** | **5.01** |
| Еўра | 3.1000/3.1900 | **3.1000/3.2000** |
| Долар ЗША | 2.5200/2.6000 | **2.5500/2.6300** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | **29.12** | **5.01** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 23,96 | **22,56** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,10 | **4,25** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,87 | **7,76** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,70 | **5,20** |
| Селядзец, 1 кг | 5,80 | **4,40** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 17,80 | **18,70** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,15 | **2,15** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 3,40 | **3,40** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 5,50 | **5,50** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,70 | **1,70** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,10 | **2,30** |
| Агуркі, 1 кг | 4,30 | **5,50** |
| Баклажаны, 1 кг | 6,90 | **4,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,40 | **0,80** |
| Буракі, 1 кг | 0,60 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,45 | **0,50** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,90 | **1,90** |
| Морква, 1 кг | 0,80 | **0,90** |
| Памідоры, 1 кг | 4,50 | **4,90** |
| Перац, 1 кг | 6,50 | **6,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,70** |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **6,50** |
| Авакада, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,60 | **2,70** |
| Вінаград, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Гранат, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Лімон, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,50 | **4,00** |
| Хурма, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,20 | **2,60** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Масла, 1 кг | 17,00 | **17,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | **4,00** |

## Бацька выклікаў міліцыю на сына, які скандаліў

**МАЛАДЗЕЧНА**

Міліцыянеры Маладзечна выязджалі па выкліку на вуліцу Купалы. У кватэры скандаліў 30-гадовы мужчына.

Міліцыю яго бацька выклікаў днём раней. Ён казаў, што сын у стане алкагольнага ап'янення граміць кватэру. Але ў той вечар да прыезду міліцыі буян знік у невядомым кірунку. Калі ён усё ж вярнуўся дадому – бацька зноў патэлефанаваў на лінію 102.

На момант, калі па адрасе прыбылі міліцыянеры, фігуранта спрабавалі ўціхамірыць бацькі. Нецвярозы мужчына паводзіў сябе агрэсіўна, гучна крычаў, кідаўся з кулакамі на маці і бацьку. Дыялогу з мужчынам не атрымалася: з першых хвілін ён абражаў бацькоў і міліцыянераў, нецэнзурна лаяўся. Каб спыніць мужчыну, міліцыянеры ўжылі фізічную сілу і спецсродкі. Па дарозе ў РАУС абразы працягваліся.

Па знешніх прыкметах маладзечанец быў моцна п'яны, але ад праходжання экспертызы адмовіўся. У дачыненні да затрыманага склалі пратаколы за сямейны скандал, абразу міліцыянера і непадпарадкаванне яго законным патрабаванням.

У выніку суд Маладзечанскага раёна прызнаў затрыманага вінаватым у правапарушэнні, прадугледжаным артыкулам 23.5 КаАП Рэспублікі Беларусь, – абраза службовай асобы пры выкананні ёй службовых паўнамоцтваў, і наклаў штраф – 20 базавых велічынь, што складае 540 рублёў. А таксама прызнаў вінаватым у правапарушэнні, прадугледжаным артыкулам 23.4 КаАП Рэспублікі Беларусь, – непадпарадкаванне законнаму распараджэнню ці патрабаванню службовай асобы пры выкананні ёй службовых паўнамоцтваў, і наклаў штраф у памеры шасці базавых велічынь – гэта 162 рублі.

Акрамя гэтага, дэбашыру прысудзілі штраф у чатыры базавыя велічыні за ўчыненне сямейна-бытавога скандалу.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## На Каляды сутыкнуліся «Пежо» і ГАЗ. Пацярпеў пасажыр

**ВІЛЕЙКА**

25 снежня каля паловы 11 вечара ў Вілейскім раёне сутыкнуліся два аўтамабілі. Здарэнне адбылося на 101-м кіламетры аўтатрасы Мінск-Маладзечна-Нарач, расказалі ў ДАІ Вілейкі.

55-гадовы кіроўца на машыне ГАЗ-3212 пры выездзе з другараднай дарогі сутыкнуўся з «Пежо-Партнёр». За рулём «Пежо» быў 18-гадовы кіроўца, які рухаўся па галоўнай дарозе з боку Мядзела. У выніку аварыі 18-гадовы пасажыр аўтамабіля «Пежо» атрымаў цялесныя пашкоджанні. Кіроўцы абодвух аўтамабіляў не пацярпелі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Ноччу на пажары загінуў мужчына

**МАЛАДЗЕЧНА**

У Маладзечанскім раёне пры пажары загінуў мужчына.

У ГРАНС Маладзечна расказалі, што 30 снежня ў 00:17 выратавальнікам паступіла паведамленне, што гарыць хлеў на тэрыторыі нежылога прыватнага домаўладання (прыналежнасць усталёўваецца) у вёсцы Баяры, што ў Цюрлёўскім сельсавеце.

На пажары знайшлі загінулага грамадзяніна. Устанавілі, што ён самавольна апынуўся ў гаспадарчай пабудове. Агонь пашкодзіў маёмасць, дах і сцены ў хляве. Прычыну здарэння высвятляюць.

**Аддзел інфармацыі.**

## На возеры патанулі два рыбакі

**ВІЛЕЙКА МАЛАДЗЕЧНА**

Пра здарэнне карэспандэнту паведамілі ў Вілейскай выратавальнай станцыі. Мужчыны патанулі ў возеры Боркі, побач з вёскай Заазер'е, што ў Любанскім сельсавеце.

Паведамленне пра двух патанулых мужчын спецыялісты МНС атрымалі 2 студзеня, увечары. Паехалі на месца здарэння. Цела 59-гадовага маладзечанца дасталі. Цела другога, 71-гадовага жыхара Вілейшчыны, знайшлі раніцай 3 студзеня.

Як расказалі спецыялісты, мужчыны рыбачылі на возеры. Пасля, верагодна, было так: адзін, старэйшы, праваліўся пад лёд. Другі пабег яго ратаваць і, не дабегшы, таксама праваліўся.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



У агні, верагодна, загінуў 55-гадовы гаспадар дома.

Фота забяспечанае Марынай ГАНЧАРОВАЙ.

# На пажары знайшлі моцна абгарэлае цела мужчыны

**МАЛАДЗЕЧНА**

**1 студзеня ў 14:52 у цэнтр аператыўнага кіравання Маладзечанскага ГРАНС паведамілі пра загаранне жылога дома ў вёсцы Шалыгі, што ў Хоўхлаўскім сельсавеце.**

Пасля прыбыцця да месца выкліку работнікі МНС устанавілі, што дом гарыць адкрытым полымем. У жылым доме не было пажарнага апавяшчальніка, паведамляюць у ГРАНС Маладзечна.

Пажар ліквідавалі каля 17:00. Агонь знішчыў дах і маёмасць, пашкодзіў сцены.

У 18:25 работнікі МНС у жылым пакоі без прыкмет жыцця знайшлі моцна абгарэлае цела мужчыны. Верагодней за ўсё, у агні загінуў 55-гадовы гаспадар дома.

Прычыну высвятляюць. Разглядаюць – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні гаспадара.

**МНС нагадвае.** Часта бесклапотна кінуты акурак становіцца прычынай пажару, наносячы матэрыяльныя страты. Па віне такой бестурботнасці загараюцца камеры сметцаправодаў, шахты ліфтаў, гараць палі і лясы, здараюцца пажары ў дамах і кватэрах. Як правіла, у ліку загінулых тыя, хто меў звычку курыць у ложку ці сядзеў у крэсле ў стане алкагольнага ап'янення. У такім стане лёгка заснуць, і калі своечасова не патушыць цыгарэту, то ад яе можа загарэцца адзенне або мэбля.

Пажар з-за неасцярожнасці пры курэнні – гэта зусім не выпадковасць, а вынік прамога дзеяння чалавека.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Аўтамабіль збіў жанчыну на пераходзе

**МАЛАДЗЕЧНА**

Аварыя здарылася 29 снежня каля паловы восьмай раніцы на аўтадарозе Р-56 Маладзечна-Валожын. Пацярпела 59-гадовая выкладчыца, жыхарка Маладзечаншчыны.

48-гадовы маладзечанец ехаў па аўтадарозе з боку Маладзечна ў кірунку Валожына і каля вёскі Мянюткі наехаў на 59-гадовую жанчыну-пешахода. Яна пераходзіла дарогу па нерэгуляваным пешаходным пераходзе злева направа.

У выніку аварыі ў пацярпелай – пераломы сцягна. Яе забралі ў бальніцу. Жанчына жыве ў Маладзечанскім раёне, працуе выкладчыцай.

Кіроўца быў цвярозы. Жанчына-пешаход ішла з флікерам, паведаміла інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У першы дзень года здарылася аварыя на трасе Мінск-Нарач

**МАЛАДЗЕЧНА**

1 студзеня каля сямі раніцы здарылася аварыя на аўтадарозе Мінск-Нарач.

59-гадовы маладзечанец на аўтамабілі «Рэно-Меган Сцэнік» ехаў па аўтадарозе з боку Маладзечна ў бок Мінска з прыблізнай хуткасцю каля сарака кіламетраў у гадзіну. Перад узвышанасцю пачаў скідаць хуткасць і прыпыняцца, бо насустрач яму ехаў аўтамабіль «Вольва», які пачало раскручваць па ўсёй аўтадарозе. Пазбегнуць сутыкнення не атрымалася.

«Рэно-Меган Сцэнік» развярнула і адкінула. 24-гадовага кіроўцу «Вольвы» забралі ў бальніцу з траўмамі. Кіроўцу «Рэно-Меган Сцэнік» пабітае шкло парэзала руку, расказала інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна Дыяна Галуза.

Матэрыял – на праверцы ў АДАІ.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Каля Ільі бясправаўніца ўчыніла ДТЗ

**ВІЛЕЙКА**

Пра ДТЗ паміж Ільёй і вёскай Ільянскія Хутары ў Вілейскі РАУС паведамілі 3 студзеня каля дзвюх гадзін дня. Сказалі, што ў кювеце стаіць машына.

На месца выехалі работнікі ДАІ. На ўказаным месцы ўбачылі «Хонду». Але гаспадара аўтамабіля побач не было.

Гаспадара шукалі па нумарах аўтамабіля. Як аказалася, машына належала 31-гадовай жыхарцы вёсцы Карпавічы, што ў Хаценчыцкім сельсавеце. Работнікам ДАІ жанчына растлумачыла, што яны з мужам ехалі з гасцей. Мужчына выпіў спіртнога, таму жанчына села за руль сама, не маючы правоў. Калі аўтамабіль з'ехаў у кювет, пара кінула яго і сышла з месца здарэння, расказалі ў ДАІ.

**Аддзел інфармацыі.**

# У Крывічы прыйшоў прыродны газ

**Урачыстае мерапрыемства з гэтай нагоды адбылося 29 снежня. У гэты дзень прынялі ў эксплуатацыю і запусцілі газ на аб'екце газаразмеркавальнай сістэмы «Газіфікацыя гарадскога пасёлка Крывічы Мядзельскага раёна».**




На цырымоніі запальвання факела.

Фота Настассі УТКІНАЙ.

У межах аб'екта пабудавалі падводзячы газаправод высокага ціску з пераводам шматкватэрнага жыллёвага фонду грамадзян на прыродны газ.

Гэта падзея асабліва важная ў сферы энергетыкі. Населены пункт заставаўся апошнім гарадскім пасёлкам у краіне, дзе не было прыроднага газу. Цяпер жа ў Беларусі цалкам завершаная газіфікацыя гарадскіх і курортных пасёлкаў.

## Адкрыццё на высокім узроўні

На адкрыцці аб'екта ў Крывічах прымалі ўдзел міністр энергетыкі Беларусі **Віктар Міхайлавіч Каранкевіч**, старшыня Мінскага абласнога выканаўчага камітэта **Аляксандр Генрыхавіч Турчын**, генеральны дырэктар дзяржаўнага вытворчага аб'яднання па паліве і газіфікацыі «Белпалівагаз» **Аляксей Іванавіч Кушнарэнка**, старшыня Мядзельскага раённага выканаўчага камітэта **Анатоль Мар'янавіч Вайнілка**.

На цырымоніі запальвання факела адзначылі надзвычайную важнасць мерапрыемства.

– Для нашай галіны гэта гістарычная падзея, – адзначыў генеральны дырэктар «Белпалівагазу» Аляксей Кушнарэнка. – Газіфікацыю гарадоў мы завяршылі ў 2014 годзе прыходам газу ў горад Дзісна Віцебскай вобласці.



Старшыня Мінскага аблвыканкама Аляксандр Турчын, міністр энергетыкі Віктар Каранкевіч, старшыня Мядзельскага райвыканкама Анатоль Вайнілка, генеральны дырэктар «Белпалівагазу» Аляксей Кушнарэнка (злева направа).




Міністр энергетыкі Беларусі Віктар Каранкевіч узнагароджвае галоўнага інжынера газазабеспячэння Мядзельскага раёна Андрэя Палякова (злева направа).

> **І сёння мы з прафесійным гонарам можам канстатаваць, што газіфікаваны апошні з 86-ці пасёлкаў гарадскога, рабочага і курортнага тыпу.**

## Знакавая падзея

У Крывічах жыве больш за тысячу чалавек. Дзякуючы падачы прыроднага газу ў Крывічах газіфікуюць шэсць шматкватэрных жылых дамоў па 16 кватэр у кожным і каля 580 індывідуальных жылых дамоў.

Будаўніцтва газаправода высокага ціску ў Крывічах дазволіць газіфікаваць і населеныя пункты, размешчаныя ўздоўж трасы газаправода, – Будслаў, Княгінін, Сваткі і іншыя. Агулам гэта больш за дзве тысячы жылых дамоў.

Газіфікацыя – гэта ў першую чаргу камфорт у дамах людзей. Але прыход прыроднага газу важны і для аграпрамысловага комплексу. Напрыклад, зернесушыльныя комплексы, працуючы на газе, даюць большы эканамічны эфект і дазваляюць хутка высушыць збожжа. Там газ не толькі дапаможа жыхарам больш утульна і зручна адчуваць сябе дома, але і працаваць з большай эфектыўнасцю.

## Пабудавалі ўдвая хутчэй за норму

Генеральным падрадчыкам па выкананні будаўніча-мантажных работ выступіла ўпраўляючая кампанія холдынгу ААТ «Белгазбуд».

У будаўніцтве ўдзельнічалі таксама наступныя арганізацыі: ААТ «Будгаз» з Брэста, ААТ «Гроднагазбудізаляцыя», УП «Віцебскгазбуд», ТАА «Барысаўгазбуд», УП «Полацкгазбуд», ТАА «Газбуд», ТАА «Асіповічыгазбуд», ТАА «Стоўбцыгазбуд», УП «Газбудмантаж Магілёў», ТАА «Бурэксперт», ДУП «Мядзельскае ПМС».

> **Будаўніцтва падводзячага газаправода выканалі агульнай працягласцю 29,25 кіламетра.**

Нарматыўныя тэрміны будаўніцтва аб'екта складаюць пяць месяцаў. Фактычна яго пабудавалі за два з паловай.



Падчас мерапрыемства правялі выставы.

На мерапрыемстве ўдзельнікам паказалі выставу спецыялізаванай тэхнікі і па прапагандзе бяспечнага выкарыстання газу ў побыце.

Уручылі ўзнагароды работнікам за актыўны ўдзел у рэалізацыі праекта.

УП «Мінскаблгаз» УНП 100008077




# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Рухавік Д-240, ЗМЗ-53, А-01 у любым стане, запчасткі да іх. Т. (8-029) 6663675.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры г. Смаргонь. Т. (8-044) 7626113.

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

### ЗДАМ

• У арэнду нежылое памяшканне плошчай 155,3 кв. м па адрасе: г. Маладзечна, вул. Я. Купалы,110. Т. (8-029) 6195512.*

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і профнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Паслугі сантэхніка. Ацяпленне. Водазабеспячэнне. Усе віды работ. ІП Трубач С.А. УНП 692250027. Т. (8-029) 7018908.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

**Іншае**

• Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

### КУПЛЮ

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Папугая карэла. Т. (8-029) 5019550.*

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2552321.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Дамашняе малако. Многа. Т. (8-029) 6162240.*

• Фотаапараты «Зеніт», «Альбар», аб'ектывы розныя. Т. (8-029) 2988005.

### АДДАМ

• Аддам дарма тумбу з люстэркам (трэльяж) карычневага колеру, паліраваная, б/у. Т. (8-029) 6458473.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 Вэлком.

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю работу. (8-029)5019550.*

**«Рэгіянальная газета»** шукае **рэкламнага агента**

Заробак неабмежаваны і залежыць ад колькасці арганізаванай рэкламы. Калі вы камунікабельныя, умееце падтрымліваць гаворку, настойлівыя і адказныя, то дасылайце сваё рэзюмэ на адрас **reklama@rh.by.**



**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёна:

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Астравец** | -01591, | **Вілейка** | -01771, |
| **Ашмяны** | -01593, | **Маладзечна** | -0176, |
| **Валожын** | -01772, | **Мядзел** | -01797, |
| | | **Смаргонь** | -01592. |



**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**У вас ёсць магчымасць зрабіць прыемнае родным і блізкім – размясціць віншаванне на старонках нашай газеты!**

Кошт – ад 2,50 рубля.

**Наш адрас:** г. Маладзечна, вул. Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518 (ГЦ «Тройка»)

**Тэл.** (8-0176) **53-78-04**
(8-029) **676-84-20**
(8-029) **573-28-47**

# Анлайн-канцэрты, зімовыя забавы і адна васьмёрка за чвэрць



## Дзённік мамы чацвертакласніцы

**Чарговы дзённік мамы пішацца ўжо ў новым годзе – калі чвэрць скончаная, а свята адзначанае.**



Зімовае сэлфі. Варвара з мамай і Юляй.

Другую чвэрць Варвара скончыла куды лепш, чым першую. Яшчэ крыху – і дагоніць старэйшую сястру, выдатніцу Юлю. За гэту чвэрць Вара мае толькі адну васьмёрку – па матэматыцы.

**Звыклых канцэртаў у рэале ў апошнія пару месяцаў па-ранейшаму не было. З-за пандэміі ўсё праходзіць у анлайне. Так у школе запісвалі на відэа танец на харэаграфічны конкурс.**

Перанёсся ў анлайн і традыцыйны канцэрт, дзе дзеці іграюць на дудках. Перад новым годам мы атрымалі заданне ад выкладчыка – устаць перад прыбранай ялінкай, сказаць «З Новым годам і Калядамі!» і зайграць на дудцы што-небудзь са свайго рэпертуару.

**Таму мы прыбралі ялінку цацкамі, запалілі на ёй агеньчыкі. Паставілі ля ялінкі Варвару, прыбраную ў вышыванку, і пачаўся запіс.**

Варвара іграла «Песеньку сяброў» з мультфільма «Брэменскія музыканты». А яшчэ ў нас была свая фішка – гітарны акампанемент, які стварала мама. У выніку запіс зрабілі з трэцяга разу. Бо ў першы запілікаў тэлефон, на які нешта прыйшло ў тэлеграм. А ў другі – памылілася мама.

**Пасля наш выкладчык Сяргей Ярук сабраў відэазапісы ўсіх сваіх вучняў, змантаваў і зрабіў анлайн-канцэрт.**

Усё праз тую ж пандэмію ранішніка ў школе таксама не было. У адзін з апошніх дзён чвэрці Дзед Мароз са Снягуркай прыйшлі ў клас, павіншавалі дзяцей і ўручылі ім ласункі.

Канікулы Варвара бавіць дома. Чытае кніжкі, гуляе ў камп'ютарныя і настольныя гульні, забаўляецца на вуліцы, пакуль яшчэ канчаткова не растаў снег.

Урокаў на канікулы амаль не задавалі.

**Адзінае – трэба прачытаць два апавяданні пісьменніцы-маладзечанкі Тамары Бунты.**

А іх нават у бібліятэцы шукаць не трэба. Яркая кніжка Тамары Пятроўны «Чароўны кошык» стаіць на паліцы ў нас у дзіцячым пакоі. А на першай старонцы красуецца аўтограф пісьменніцы і добрыя ад яе пажаданні Юлі і Варвары. Добра, калі мама асабіста знаёмая з некаторымі творцамі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# У падатковай інспекцыі пачаў працаваць Цэнтр абслугоўвання плацельшчыкаў

МАЛАДЗЕЧНА

**Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне інфармуе, што ў інспекцыі адкрыты Цэнтр абслугоўвання плацельшчыкаў (далей – ЦАП).**

Дзейнасць ЦАПа накіраваная на хуткае і якаснае аказанне падатковых паслуг фізічным асобам, індывідуальным прадпрымальнікам і юрыдычным асобам з выкарыстаннем электроннай чаргі.

Пры звароце ў ЦАП фізічныя асобы змогуць атрымаць наступныя паслугі:

пастаноўка і зняцце з уліку ў падатковых органах;

рэгістрацыя асабіста-га кабінета фізічнай асобы;

падача падатковых дэкларацый па падаходным падатку і дэкларацый аб даходах і маёмасці;

тлумачэнне пытанняў, звязаных з вылічэннем падаткаў на зямлю, нерухомасць і арэнднай платы за зямлю;

падача заяў для заліку, вяртання залішне выплачаных сум падаткаў, збораў (пошлін);

тлумачэнне парадку падаткаабкладання пры здачы ў наём жылых і нежылых памяшканняў;

тлумачэнне парадку выплаты: адзінага падатку для плацельшчыкаў-фізічных асоб, якія не займаюцца прадпрымальніцтвам, а таксама рамеснага збору, збору за дзейнасць па аказанні паслуг у сферы аграэкатурызму, іншых пытанняў, звязаных з выкананнем падатковых абавязацельстваў.

Пры звароце суб'ектаў гаспадарання аказваюцца наступныя паслугі:

выпіска з асабовага рахунку суб'екта гаспадарання;

падача дакументаў для спагнання дэбіторскай запазычанасці;

выдача выніковых дакументаў;

падача заяў для заліку, вяртання залішне выплачаных сум падаткаў, збораў (пошлін).

Цэнтр абслугоўвання плацельшчыкаў працуе ў рэжыме пяцідзённага працоўнага тыдня. Працоўны дзень – ад 8:00 да 19:00. Выхадныя дні: субота і нядзеля.

**Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне.**

# На пытанне «Колькі будзеш размаўляць па-беларуску?» адказваю: «Усё жыццё»

## Беларускамоўная кандуктарка з Маладзечна расказала пра сябе

МАЛАДЗЕЧНА

**«Каму трэба заплаціць за праезд?». Калі вы чулі ў гарадскім аўтобусе ў Маладзечне такі зварот на беларускай мове, значыць, на маршруце працавала беларускамоўная кандуктарка Марыя Кіёнак.**


Фота забяспечанае гераіняй публікацыі.

Зноў вярнуцца да беларускай мовы Марыя Кіёнак вырашыла летам 2020 года.

Першы раз я проста слухала, як Марыя размаўляе з пасажырамі па-беларуску, другі – падышла да яе і падзякавала за родную мову ў аўтобусе. Ну і, нарэшце, прапанавала Марыі стаць гераіняй нашай публікацыі.

Марыя Кіёнак жыве ў Маладзечне некалькі год. Сама – вясковая, нарадзілася ў Пастаўскім раёне, на Віцебшчыне. Пасля заканчэння Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта прыехала працаваць у Маладзечна. Тут і засталася.

### Па-беларуску нават бачыла сны

Па спецыяльнасці Марыя – настаўніца пачатковых класаў. У свой час у Маладзечне для яе, выпускніцы ўніверсітэта, знайшлося месца толькі выхавальніцы ў дзіцячым садку. Папрацавала там. А пасля зразумела, што праца не яе. Захацелася нешта змяніць. Так мая суразмоўца апынулася ў Маладзечанскім аўтапарку. Працуе кандуктарам чацверты год і сцвярджае: «У педагогіку не хачу!».

– У нашым пасёлку людзі ў большасці гаварылі на трасянцы. Але стасункі з беларускай мовай былі заўсёды, бо па веравызнанні я каталічка. Пра мову пачала задумвацца, калі паступіла ва ўніверсітэт у Віцебск – рускамоўны горад. Думалася: беларусы вучаць у школе беларускую мову, быццам нядрэнна ведаюць яе. Чаму ж тады не размаўляюць на ёй? Студэнтства – гэта час эксперыментаў. Таму аднойчы я вырашыла для сябе перайсці на беларускую. У адзін з дзён прыйшла на заняткі і стала размаўляць. Аднагрупнікі здзівіліся: што гэта раптам са мной. Увесь час па-руску размаўляла, а тут такое. Адразу смяяліся, казалі: «Навошта гэты цырк? Ты ж усё роўна думаеш па-руску». Тады яшчэ я адказаць нічога не магла, але і ад свайго не адступалася. Я ўпартая, і рашэнні мяняю толькі, калі сама гэтага захачу, – прыгадвае Марыя студэнцкія гады.

Але хутка дзяўчына заўважыла, што ад пастаяннага маўлення па-беларуску думаць яна таксама пачала на роднай мове. Больш за тое, ёй нават пачалі сніцца сны па-беларуску. Цяпер Марыя мела, што адказаць на пытанні аднагрупнікаў. Але тыя з часам прывыклі да беларускамоўнай дзяўчыны.

### Прыехала ў Маладзечна і… здалася

– І вось студэнцтва скончылася. Я прыехала ў незнаёмы мне горад Маладзечна. Пачала думаць, як жа я тут буду размаўляць па-беларуску з людзьмі, якіх бачу першы раз. Як буду працаваць з дзецьмі ў садку, яны ж мяне не зразумеюць. І ў выніку я… здалася, – дзеліцца суразмоўца. – Вырашыла, навошта мне вытыркацца. Добра, буду як усе.

І дзяўчына развіталася са сваёй беларускамоўнасцю. Ды, як высветлілася, не назаўсёды.

### Двухмесячнага сына «бамбіла» беларускай класікай

Перастаўшы быць беларускамоўнай, Марыя пра мову не забывалася. Яшчэ больш мовы ў яе жыцці стала, калі нарадзіўся сын. Маладая мама разумела, што цяпер толькі ад яе залежыць, кім будзе адчуваць сябе маленькі чалавек – беларусам ці рускім. І таму двухмесячнаму хлопчыку пачала чытаць «Новую зямлю» Якуба Коласа:

– Ён яшчэ ляжаў у вазку, толькі пачынаў успрымаць свет, а я яго ўжо беларускай класікай бамбіла. Калі сын падрастаў, выбірала для яго кніжкі на беларускай мове з прыгожымі малюнкамі. Сёння набываю замежных аўтараў у перакладзе на беларускую мову. Напрыклад, «Маленькага прынца» сын чытаў па-руску, па-беларуску і нават спрабаваў на французскай мове, якую вывучае ў школе.

Цяпер хлопцу 14. Адзнакі па беларускай мове ў яго, на жаль, не вельмі добрыя. Маме часам бывае сорамна, адзначае Марыя. А вось літаратура даецца лепш.

### Прыемна, калі на маё «калі ласка» пасажыры адказваюць «дзякуй»

Рашэнне зноў размаўляць па-беларуску мая суразмоўца прыняла нядаўна – летам 2020 года:

– Была ў бацькоў, мела шмат часу падумаць. Вырашыла, што размаўляць па-беларуску – гэта тое нямногае, што я магу сёння рабіць для Беларусі.

Прызнаецца, што ў першы дзень выхаду на працу пасля адпачынку было трывожна. Думала, як успрымуць беларускамоўнага кандуктара пасажыры, што скажуць. Але ўсё ж перакапала сябе, што дарослай жанчыне трэба жыць і прымаць рашэнні без аглядкі на іншых.

– Я заўсёды хоць па-руску, хоць па-беларуску звяртаю ўвагу на культуру зносін з пасажырамі. Адрываючы і даючы талон, раней абавязкова казала «пожалуйста», цяпер кажу «калі ласка». Заўсёды толькі 30-40 працэнтаў пасажыраў дзякуюць у адказ.

> **Але прыемна тое, што палова з гэтай колькасці цяпер на маё «калі ласка» адказвае менавіта «дзякуй», – расказвае Марыя.**

– Рэдкія пасажыры могуць спытаць: «Што гэта за калгас?». Але іншыя іх тут жа супакойваюць: «Ціха-ціха! Гэта кандуктар па-беларуску размаўляе…» Некаторыя здзіўляюцца, некаторыя падтрымліваюць гутарку на роднай мове. І гэта цешыць.

### Калі прыходзіцца пераходзіць на рускую

У студэнцкія гады быць беларускамоўнай было лягчэй, заўважае Марыя. Чалавек тады малады, бескампрамісны, упэўнены ў сабе. Ён не асабліва задумваецца пра тое, ці зразумеюць яго іншыя. У дарослым жыцці – не так:

– Напрыклад, калі я размаўляю па-беларуску ў краме з прадаўцом, непаразуменняў не ўзнікае. А вось з дактарам часам прыходзіцца пераходзіць на рускую мову, каб мяне зразумелі і далі правільныя рэкамендацыі.

Не заўсёды, па назіраннях Марыі, мову разумеюць пасажыры, якія пытаюцца ў кандуктара пра маршрут аўтобуса. Тады жанчына зноў мусіць пераходзіць на рускую. Але здраджваць сабе стараюся як мага радзей, адзначае яна.

Суразмоўца прызнаецца, што, размаўляючы па-беларуску, часам камплексуе з-за таго, што не ідэальна ведае мову. Каб палепшыць сітуацыю, перавяла на беларускую свой мабільнік, спампавала туды руска-беларускі слоўнік, стараецца больш чытаць беларускіх кніг. Знаходзіць на чытанне час і па вечарах, і падчас абедзеннага перапынку на працы. Любоў да чытання ў жанчыны – з дзяцінства.

### Каб беларусы пачалі размаўляць па-беларуску

Як зрабіць так, каб беларусы пачалі размаўляць па-беларуску? Тут простых рашэнняў няма, перакананая Марыя. Але дакладна гэта не павінна быць хутка, рэзка і з ціскам. І не варта спадзявацца на тое, што ўсе беларусы свядомыя, лічыць суразмоўца. Таму ўсё павінна адбывацца паступова, натуральна і, безумоўна, з дзяржаўнай падтрымкай.

…Родныя Марыі часам пытаюцца, колькі яшчэ яна збіраецца размаўляць па-беларуску. Адказ у яе просты – усё жыццё.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ


Фота kinapoisk.ru

# «Крышталь»

**Драматычны камедыйны фільм рэжысёра Дар'і Жук сумеснай вытворчасці Беларусі, Германіі, ЗША і Расіі. Фільм выйшаў у 2018 годзе.**

## Сюжэт

1990-я гады, Мінск, посткамуністычная Беларусь. Маладая дзяўчына-дыджэй Эвеліна (Веля) з дыпломам юрыста марыць паляцець у Чыкага, дзе зарадзіўся яе любімы музычны стыль – хаўс. У чарзе ў пасольства ЗША дзяўчына даведваецца, што можа не атрымаць візу з-за адсутнасці даведкі з месца працы.

Яна вырашае купіць «ліпавую» даведку аб працаўладкаванні менеджарам на заводзе, на якім робяць вырабы з крышталю. У даведцы дзяўчына ўказвае няправільны нумар. Яна баіцца, што работнікі амбасады патэлефануюць па гэтым нумары для ўдакладнення інфармацыі, таму адпраўляецца ў заводскі пасёлак, каб адшукаць гаспадароў тэлефоннага нумара і ўгаварыць іх пацвердзіць дадзеныя яе анкеты.

## Стварэнне

Рэжысёр фільма Дар'я Жук нарадзілася ў Мінску, а ў 16 год з'ехала ў ЗША. У аснове сцэнарыя ляжыць рэальная гісторыя, якую рэжысёру расказала сяброўка. Жук хацела экранізаваць гісторыю, калі яшчэ пачынала ў кінашколе ў ЗША, а пазней падзялілася ёю са сцэнарысткай Хельгай Ландаўэр.

– Яна прыехала да мяне ў госці, калі яшчэ жыла ў Каліфорніі, і расказала мне такую сітуацыю, якая адбылася з яе сяброўкай. Пра тое, што яна дала нейкую ліпавую даведку ў амерыканскую амбасаду, у якой быў нумар тэлефона, і калі высветлілася, што па гэтым нумары будуць тэлефанаваць, то ёй трэба было нейкі час правесці ў чужой кватэры, чакаючы званка, – расказвала Ландаўэр.

Сцэнарый «Крышталю» рэжысёр адправіла на кінастудыю «Беларусьфільм», дзе ён праляжаў паўтара года. У чаканні адказу Жук занялася пошукам бюджэту самастойна, на што ў яе сышло чатыры гады. Здымкі фінансаваліся кампаніямі і фондамі з чатырох краін.

Пры стварэнні карціны Жук натхнялася першым фільмам **Сьюзэн Зайдэльман** «Аскепкі», «Ідай» **Паўла Паўлікоўскага**, раннімі фільмамі **Джыма Джармуша** і **Кіры Муратавай**.

Здымкі прайшлі ў Беларусі. У сакавіку яны праходзілі ў Мінску ў дні масавых акцый пратэсту. Сцэны з пасёлка здымалі ў Барысаве. Для сцэн дыскатэк выкарыстоўвалі памяшканні мемарыяльнага музея-майстэрні Азгура з помнікамі і бюстамі савецкага часу. Адзенне і рэквізіт для здымак шукалі ў сэканд-хэндах.

## Водгукі і крытыка

Заходняя крытыка ацаніла дэбютную карціну беларускага рэжысёра вельмі добра. Станоўчыя рэцэнзіі пра фільм напісалі Variety, Hollywood Reporter, Screen International, IndieWire, The Playlist і іншыя. Расійская прэса таксама добра адгукнулася пра фільм.

## Акцёры

**Аліна Насібуліна** – Веля, дыджэй з Мінска і паклонніца хаўса, якая хоча з'ехаць у ЗША.

**Іван Мулін** – Сцяпан, жыхар пасёлка, які вярнуўся з арміі і рыхтуецца да вяселля. Сцяпан размаўляе на трасянцы. Акцёр дамогся гэтага пры падтрымцы Жук, слухаючы беларускую мову ў Маскве і Беларусі.

**Юры Барысаў** – Алік, дыджэй з Мінска і сябар Велі.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 11 ЯНВАРЯ**

**7.00, 14.55, 17.55, 21.05, 1.00** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад».
**7.30, 15.00, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.00, 19.15** Т/с **«ШЕРЛОК».**
**9.30** Мультфильмы «Кунгфу панда».
**11.00** Х/ф **«МИМИНО».**
**12.35, 18.00** Т/с **«ОА».**
**13.35** Т/с **«НЕУКРОТИМЫЙ ПОВЕЛИТЕЛЬ».**
**14.25** Д/с «Буддизм в Китае».
**15.05** «Мульт-парад». «Хрусталик и пингвин».
**16.20** Т/с **«ПОКА ЦВЕТЕТ ПАПОРОТНИК».**
**20.55** «Вечарніца» 6+.
**21.10** Х/ф **«ЧУЖОЙ ВОСКРЕШЕНИЕ».**
**23.00** Х/ф **«ЛИНКОЛЬН ДЛЯ АДВОКАТА».**

**ВТОРНИК, 12 ЯНВАРЯ**

**7.00, 21.05, 1.05** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад» 6+.
**7.30, 15.20, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.00, 19.15** Т/с **«ШЕРЛОК».**
**9.30** Мультфильмы «Все собаки празднуют Рождество».
**10.40** «Готовь как шеф».
**11.00** Х/ф **«ЧУЖОЙ ВОСКРЕШЕНИЕ».**
**12.50, 18.25** Т/с **«ОА».**
**14.05** Т/с **«НЕУКРОТИМЫЙ ПОВЕЛИТЕЛЬ».**
**14.50** Д/с «Буддизм в Китае».
**15.15** Погода + «Эрана».
**15.25** «Мульт-парад». «Кунгфу панда-2».
**17.00** «Дети о еде».
**17.25** Т/с **«ПОКА ЦВЕТЕТ ПАПОРОТНИК».**
**18.20** «Погода». «Эрана».
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ЛЕВ ЯШИН ВРАТАРЬ МОЕЙ МЕЧТЫ».**
**23.10** Х/ф **«БЕРЛИНСКИЙ СИНДРОМ».**

**СРЕДА, 13 ЯНВАРЯ**

**7.00, 15.05, 18.10, 21.10, 1.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад».
**7.30, 15.10, 20.55** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.00, 19.25** Т/с **«ШЕРЛОК».**
**9.30** Мультфильмы «Леди и бродяга».
**10.40** «Дети о еде».
**11.00** Х/ф **«ЛЕВ ЯШИН ВРАТАРЬ МОЕЙ МЕЧТЫ».**
**13.00, 18.15** Т/с **«ОА».**
**13.50** Т/с **«НЕУКРОТИМЫЙ ПОВЕЛИТЕЛЬ».**
**14.35** Д/с «Буддизм в Китае».
**15.15** «Мульт-парад». «Тайны зимнего леса».
**16.30** Х/ф **«ДОМОВОЙ».**
**21.00** «Вечарніца» 6+.
**21.15** Х/ф **«ГАРРИ ПОТТЕР И ПРИНЦ ПОЛУКРОВКА».**
**23.40** Х/ф **«ПАУТИНА ЛЖИ».**

**ЧЕТВЕРГ, 14 ЯНВАРЯ**

**7.00, 15.40, 19.15, 21.00, 0.55** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.30, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.00** Т/с **«ШЕРЛОК».**
**9.30** Мультфильмы «Добрыня Никитич и Змей Горыныч».
**10.40** СБ ТВ (гороскоп).
**10.50** Х/ф **«ГАРРИ ПОТТЕР И ПРИНЦ ПОЛУКРОВКА».**
**13.20, 17.45** Т/с **«ОА».**
**14.30** Т/с **«НЕУКРОТИМЫЙ ПОВЕЛИТЕЛЬ».**
**15.15** Д/с «Буддизм в Китае».
**15.45** «Мульт-парад».
**16.15** Х/ф **«АФОНЯ».**
**19.00** «Фешнisтупрофешн».
**19.20** Т/с **«РОМАНОВЫ».**
**20.55** «Вечарніца» 6+.
**21.05** Х/ф **«СХВАТКА».**
**23.05** Х/ф **«Я – ЛЕГЕНДА».**

**ПЯТНИЦА, 15 ЯНВАРЯ**

**7.00, 15.10, 21.10, 1.50** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.30, 15.15, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«БЫВАЕТ И ХУЖЕ».**
**8.00, 19.20** Т/с **«РОМАНОВЫ».**
**9.25** Мультфильмы.
**11.00** Х/ф **«Я – ЛЕГЕНДА».**
**12.45, 18.20** Т/с **«ОА».**
**14.00** Т/с **«НЕУКРОТИМЫЙ ПОВЕЛИТЕЛЬ».**
**14.45** Д/с «Буддизм в Китае».
**15.20** «Мульт-парад».
**16.15** «Готовь как шеф».
**16.35** Х/ф **«СОКРОВИЩА ОЗЕРА КАБАН».**
**19.15** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ВТОРЖЕНИЕ».**
**23.30** Х/ф **«ГАРРИ ПОТТЕР ДАРЫ СМЕРТИ».**

**СУББОТА, 16 ЯНВАРЯ**

**7.00, 15.45, 17.55, 21.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 17.25** «Мульт-парад».
**7.55** «Приколы 13-й школы».
**8.00** Х/ф **«МОСКВА СЛЕЗАМ НЕ ВЕРИТ».**
**10.30** «Дети о еде».
**10.55** Х/ф **«ГАРРИ ПОТТЕР. ДАРЫ СМЕРТИ».**
**13.30** Х/ф **«СЛУЖИТЕЛИ ЗАКОНА».**
**15.50** Смотрим всей семьей «Приключения Паддингтона».
**18.00** «Бьюти День».
**18.30** Х/ф **«ГАРРИ ПОТТЕР ДАРЫ СМЕРТИ».**
**20.45** «Вечарніца».
**21.00** «Фешнisтупрофешн».
**21.15** Х/ф **«ОСОБОЕ МНЕНИЕ».**
**23.40** Х/ф **«МОЙ СОЗДАТЕЛЬ».**
**1.30** «Погода».

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 17 ЯНВАРЯ**

**7.00, 15.55, 17.30, 21.00** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад».
**8.55** «Приколы 13-й школы».
**9.00** Х/ф **«НЕ МОЖЕТ БЫТЬ».**
**10.00** «Бьюти День».
**10.30** «Готовь как шеф».
**10.45** Х/ф **«ГАРРИ ПОТТЕР. ДАРЫ СМЕРТИ».**
**13.00** «Мульт-парад». «Тайная жизнь домашних животных-2».
**14.25** Х/ф **«ПОЛЕТ НАВИГАТОРА».**
**16.00** Х/ф **«ПОЛНОЧЬ В ПАРИЖЕ».**
**17.35** Т/с **«КОЛОМБО».**
**19.15** «Суперлото».
**20.00, 0.55** «Погода».
**20.05** Т/с **«ПРОЕКТ «СИНЯЯ КНИГА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«МАТИЛЬДА».**
**23.00** Х/ф **«ПРИНЦ ПЕРСИИ».**

## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 11 ЯНВАРЯ**

**6.30** Х/ф **«МОДНАЯ ШТУЧКА».**
**9.00** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АЛАДДИНА».**
**10.50** Х/ф **«ПОДАРОК С ХАРАКТЕРОМ».**
**12.00** Новости БЖД.
**13.20** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЕ РЫЦАРИ».**
**15.20** Х/ф **«ГРИНЧ».**
**17.10** Х/ф **«ХОЛОДНОЕ СЕРДЦЕ 2».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Мая Радзіма.
**20.15** Х/ф **«РОЖДЕСТВО НА ДВОИХ».**
**22.15** Мажорный лад.

**ВТОРНИК, 12 ЯНВАРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15, 22.15** Мажорный лад.
**8.15** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**13.00** Х/ф **«КЛАУС».**
**15.10** Х/ф **«ВСЁ ИЛИ НИЧЕГО».**
**16.30** Х/ф **«НОВЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ АЛАДДИНА».**
**19.15** Будьте здоровы.
**20.15** Х/ф **«НАЧАЛО ВРЕМЕН».**

**СРЕДА, 13 ЯНВАРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Будьте здоровы.
**8.15** Х/ф **«ТЕОРИЯ ХАОСА».**
**10.00** Новости: время местное. Итоги.
**10.30** Х/ф **«ЕЛКИ 5».**
**13.15** Х/ф **«ЧЕРНАЯ МОЛНИЯ».**
**15.10** Х/ф **«ТОЛСТЯК НА РИНГЕ».**
**17.00, 22.15** Мажорный лад.
**19.15** Мастерство и вдохновение.
**20.30** Музыкальная открытка.

**ЧЕТВЕРГ, 14 ЯНВАРЯ**

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«УДИВИТЕЛЬНОЕ ПУТЕШЕСТВИЕ ДОКТОРА ДУЛИТТЛА».**
**10.00** Х/ф **«ОДНОЙ ЛЕВОЙ».**
**12.00** Х/ф **«ДЖЕНТЛЬМЕНЫ! УДАЧИ».**
**15.00** Х/ф **«КАМУФЛЯЖ И ШПИОНАЖ».**
**19.15** Будьте здоровы.
**20.15** Х/ф **«ОГНИ БОЛЬШОЙ ДЕРЕВНИ».**
**22.15** Мажорный лад.

**ПЯТНИЦА, 15 ЯНВАРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Мая Радзіма.
**8.15** Х/ф **«ПРИЗРАК».**
**9.40** Х/ф **«ПЯТНИЦА».**
**12.00** Х/ф **«АГЕНТ 117-МИССИЯ В РИО».**
**13.45** Х/ф **«ТАКИЕ РАЗНЫЕ БЛИЗНЕЦЫ».**
**15.35** Х/ф **«КОРОЛЕВСТВО ПОЛНОЙ ЛУНЫ».**
**16.50** Х/ф **«КЛАУС».**
**19.20** Будьте здоровы.
**20.20** Х/ф **«ЧЕТВЕРО ПРОТИВ БАНКА».**
**22.20** Мажорный лад.

**СУББОТА, 16 ЯНВАРЯ**

**6.30, 8.40** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.30** Мастерство и вдохновение.
**13.00** Х/ф **«ТОЛСТЯК ПРОТИВ ВСЕХ».**
**14.50** Х/ф **«Я – МИЛЛИАРДЕР».**
**16.50** Х/ф **«УПРАВЛЕНИЕ ГНЕВОМ».**
**19.30** Новости БЖД.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.20** Мажорный лад.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 17 ЯНВАРЯ**

**6.30** Х/ф **«КАК ПОЙМАТЬ ПЕРО ЖАР-ПТИЦЫ».**
**9.00** Х/ф **«НАЧАЛО ВРЕМЕН».**
**10.50** Х/ф **«НИНДЗЯ ИЗ БЕВЕРЛИ ХИЛЛЗ».**
**12.50** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЙ ПОЛДЕНЬ».**
**14.50** Х/ф **«АГЕНТ 117-МИССИЯ В РИО».**
**16.40** Х/ф **«ТОЛСТЯК ПРОТИВ ВСЕХ».**
**18.25** Х/ф **«КОПЫ В ГЛУБОКОМ ЗАПАСЕ».**
**20.00** Х/ф **«БАБЛО».**
**21.30** Х/ф **«СОНИК В КИНО».**

# нядзеля, 17 студзеня

## Беларусь 1

**6.30** Х/ф **«ЖДИТЕ НЕОЖИДАННОГО».**

**8.20** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.40** Истории спасения.

**10.15** «Зона Х». Итоги недели.

**10.45** Маршрут построен.

**11.20, 12.35** Х/ф **«ДОЧКИ-МАТЕРИ».**

**12.10** Новости. Центральный регион.

**13.30** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.

**15.15** Дай пять.

**15.30** Вокруг планеты.

**16.15** «Повод есть».

**16.45, 19.10** Х/ф **«КРЕСТНАЯ».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.05** Х/ф **«НЕКРАСИВАЯ ПОДРУЖКА».**

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.

**8.00, 19.45** Телебарометр.

**8.05** Т/с **«КЛОН».**

**9.50** Т/с **«ПИНГВИНЫ ИЗ МАДАГАСКАРА».**

**10.10** «Мир наизнанку. Бразилия». Познавательное трэвел-шоу.

**11.05** Фильм-фэнтези «Большой и добрый великан».

**13.00** «На ножах». Кулинарное реалити-шоу.

**13.50** «Папа попал». Реалити-шоу.

**15.30** «Меняю жену». Реалити-шоу.

**17.15** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**18.05** Х/ф **«ПАССАЖИР».**

**20.15** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«ОТЕЦ-МОЛОДЕЦ «.**

**23.10** «Любовь на выживание». Романтическое реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 15.15** Навіны культуры.

**8.20** «Машенькин концерт». Мультфільм.

**8.30** «Мядовы месяц». Мастацкі фільм СТ.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Кугель з агародніны.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.45** «Іван Броўкін на цаліне». Мастацкі фільм.

**13.20** «Народны майстар». Валянціна Савіцкая (дэкаратыўна-прыкладное мастацтва).

**13.45** «Спявае Беларусь». Фальклорнае песеннае шоу. Народны ансамбль народнай песні «Вярбічанька» (аграгарадок Клётнае, Глускі раён, Магілёўская вобласць).

**14.40** «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.

**15.35** «Санеты памяці. Кінаператар Таццяна Логінава». Дакументальны фільм.

**16.30** Канцэрт-сюрпрыз «Навагодні маскарад».

**18.10** «Салодкая жанчына». Мастацкі фільм.

**19.50** «Кадры жыцця». Кінарэжысёр, сцэнарыст, прадзюсар і аператар Дзмітрый Зайцаў.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Азазель». Мастацкі фільм СТ.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.10** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.30** ОНТ представляет: «Народный повар».

**10.40** Кино в цвете. «Цирк».

**12.20** «Видели видео?».

**13.35** «Ледниковый период».

**16.20** «Ледниковый период». Продолжение.

**16.45** Премьера. «Я почти знаменит».

**18.30** Шоу Максима Галкина «Лучше всех!» Новый сезон.

**20.00** Контуры.

**21.20** Концерт Максима Галкина.

**22.45** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.05** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИКИ».**

## СТВ

**6.40, 1.10** «Живая тема».

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00, 13.40** «День «Невероятно интересных историй».

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**14.35, 16.40** Т/с **«БОЕЦ».**

**19.30** «Неделя».

**22.05** Документальный спецпроект.

**23.35** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00, 4.50** Мультфильмы.

**6.20** Х/ф **«ОТДАМ КОТЯТ В ХОРОШИЕ РУКИ».**

**8.20** «Наше кино. История большой любви».

**8.55, 10.10** Т/с **«ЛЮБОПЫТНАЯ ВАРВАРА».**

**10.00** Новости.

**18.05, 19.30, 1.00** Т/с **«ЛЮБОПЫТНАЯ ВАРВАРА – 2».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**3.20** Х/ф **«ГОЛОСА БОЛЬШОЙ СТРАНЫ».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.05** Элементариум.

**6.35** Беларусы.

**7.10** Сегодня. Главное.

**7.25** «50 рецептов первого».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.50** «Города Беларуси».

**9.25** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Квартирный вопрос. by».

**10.50** «Однажды…».

**11.30** «НашПотребНадзор».

**12.10** Т/с **«ШЕЛЕСТ. БОЛЬШОЙ ПЕРЕДЕЛ».**

**13.55** Истории спасения.

**14.20** Х/ф **«ОБРАТНЫЙ ОТСЧЕТ».**

**16.15** «Следствие вели…».

**17.40, 20.05** Т/с **«ВЗРЫВ».**

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**22.40** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**23.10** Х/ф **«ПРОТИВ ВСЕХ ПРАВИЛ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** «Специальный репортаж».

**7.40** Х/ф **«КОГДА МЕНЯ НЕ СТАНЕТ».**

**11.00** Х/ф **«ДОРОГАЯ МОЯ ДОЧЕНЬКА».**

**12.50** ПРЕМЬЕРА. «Парад юмора».

**14.10** Х/ф **«ЗАКОН СОХРАНЕНИЯ ЛЮБВИ».**

**16.00** Т/с **«ДЕВЯТЬ ЖИЗНЕЙ».**

**20.00** ВЕСТИ.

**21.05** «В людях».

**21.45** «Тайны Беларуси».

**22.40** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**23.20** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**5.00** Чего хотят женщины. **7.15** Уцелевшая. **9.00** Переговорщик. **11.35** Давайте потанцуем. **13.30** Свадебный Переполох. **15.20** Повелитель стихий. **17.15** Мост в Терабитию. **19.00** Седьмой сын. **20.45** Белоснежка и охотник. **23.00** Ван Хельсинг. **1.30** Такси. **3.15** Такси 2.

### TV1000 ACTION

**5.10, 3.45** Соната. **6.45, 2.20** Клуб анонимных киллеров. **8.25, 15.30** Старски и Хатч. **10.05** Большой куш. **12.00** Ангелы Чарли. **13.35** Ангелы Чарли: только вперёд. **17.10** Смокинг. **19.00** Шпион по соседству. **20.35** Девять ярдов. **22.20** Девять Ярдов 2. **0.05** Полиция Майами: Отдел нравов.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.55** Гардемарины III. **7.45** Карлик Нос. **9.10** Защитники. **10.45** Свадьба по обмену. **12.25** Одноклассницы. **13.50** Одноклассницы: Новый поворот. **15.05, 3.30** Кровавая леди Батори. **17.05** Ярослав. Тысячу лет назад. **19.00** Тарас Бульба. **21.25** Матильда. **23.35** Ленин. Неизбежность. **1.55** Вурдалаки.

### ТВ3

**6.00, 10.00, 5.45** Мультфильмы. **9.30** «Новый день». **11.15** Х/ф **«СТОЙ! ИЛИ МОЯ МАМА БУДЕТ СТРЕЛЯТЬ». 13.00** Х/ф **«DOA: ЖИВЫМ ИЛИ МЕРТВЫМ». 14.45** Х/ф **«КАК УКРАСТЬ НЕБОСКРЕБ». 16.45** Х/ф **«КРАСОТКА НА ВСЮ ГОЛОВУ». 19.00** Х/ф **«БЛОНДИНКА В ЭФИРЕ». 21.00** Х/ф **«ПРОСТАЯ ПРОСЬБА». 23.30** Х/ф **«СМЕРТЕЛЬНАЯ ТРОПА». 1.15** «Исповедь экстрасенса». **2.00, 2.45** «Городские легенды». **3.30, 4.15, 5.00** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«УХОДЯЩАЯ НАТУРА». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«УСЛОВИЯ КОНТРАКТА 2». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ИСКУПЛЕНИЕ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«АДВОКАТЕССЫ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«МИФ ОБ ИДЕАЛЬНОМ МУЖЧИНЕ». 0.00, 1.00** Т/с **«ПРИМАДОННА». 2.00, 3.00** Т/с **«ЛЕСТНИЦА В НЕБЕСА».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.50** Х/ф **«ЛЕТО. ОДНОКЛАССНИКИ. ЛЮБОВЬ». 2.35** Х/ф **«ДАР». 4.55, 23.00** Х/ф **«РАЗБОРКИ В СТИЛЕ КУНГ-ФУ». 6.40** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ». 8.35** Х/ф **«ЧЕГО ХОТЯТ ЖЕНЩИНЫ?». 11.00** Х/ф **«СКАМЕЙКА ЗАПАСНЫХ». 12.30** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК, КОТОРЫЙ СЛИШКОМ МАЛО ЗНАЛ». 14.15** Х/ф **«МОЙ ПАРЕНЬ – КИЛЛЕР». 16.00** Х/ф **«НИЧЕГО НЕ ВИЖУ, НИЧЕГО НЕ СЛЫШУ». 17.55** Х/ф **«ЖИВОТНОЕ». 19.30** Х/ф **«МИЛЛИОНЕР ПОНЕВОЛЕ». 21.15** Х/ф **«СВИДАНИЕ ВСЛЕПУЮ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.30, 1.30, 2.40, 3.30, 4.35, 5.30** Т/с **«ТОЛЬКО ОДИН ВЗГЛЯД». 6.40** Т/с **«ШЕРЛОК: БЕЗОБРАЗНАЯ НЕВЕСТА». 8.30** Т/с **«ШЕРЛОК: ПУСТОЙ КАТАФАЛК». 10.10** Т/с **«ШЕРЛОК: ЗНАК ТРЕХ». 11.55** Т/с **«ШЕРЛОК: ЕГО ПОСЛЕДНИЙ ОБЕТ». 13.40, 15.35, 16.35, 17.40, 18.40, 19.40, 20.45** Т/с **«ОБРАТНАЯ СТОРОНА ЛУНЫ». 21.45** Т/с **«ШЕРЛОК: ШЕСТЬ ТЭТЧЕР». 23.35** Т/с **«ШЕРЛОК: ШЕРЛОК ПРИ СМЕРТИ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.35** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00, 2.15** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.00** Юмористическое шоу «ШОУ ВЫХОДНОГО ДНЯ». **12.00** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **12.30** Х/ф **«ЛОВИ ВОЛНУ». 13.55, 15.15, 21.00, 0.10** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **15.50** Х/ф **«ТОЧКА ОБСТРЕЛА». 17.35** Х/ф **«ПИКСЕЛИ». 19.30** Шоу «ПОЛНЫЙ БЛЭКАУТ». **22.25** Шоу «СТЕНДАП АНДЕГРАУНД». **23.20** Скетч-шоу «ЗАЛ ОЖИДАНИЯ». **1.25** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **3.05** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00, 21.20** Фристайл. Лыжная акробатика. Кубок мира. Ярославль. **8.05** Завтрак чемпионов. **8.35** Гандбол. Чемпионат мира. Мужчины. Россия – Словения. **10.10, 0.40** Гандбол. Чемпионат мира. Мужчины. Обзор игрового дня. **10.45** Биатлон. Кубок мира. Оберхоф. Эстафета. Женщины. **12.10** Гандбол. Чемпионат мира. Мужчины. Беларусь – Южная Корея. **13.50** Футбол. На пути к ЕВРО-2020. **14.20** Биатлон. Кубок мира. Оберхоф. Масстарт. Мужчины. **15.00** Баскетбол. Единая лига ВТБ. Цмокі-Мінск (Беларусь) – Зелена Гура (Польша). **16.50** Биатлон. Кубок мира. Оберхоф. Масстарт. Женщины. **17.40** Спорт-центр. **19.20** Футбол. Чемпионат Англии. Ливерпуль – Манчестер Юнайтед. В перерыве Спорт-центр. **22.15** Футбол. Чемпионат Англии. Манчестер Сити – Кристал Пэлас. В перерыве Спорт-центр. **0.05** Итоги недели.

### EUROSPORT

**1.35, 5.00, 8.30** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Закопане. HS 140. Команды. **2.30, 5.45** Горные лыжи. Кубок мира. Венген. Мужчины. Скоростной спуск. **3.30, 11.05, 13.15** Горные лыжи. Кубок мира. Марибор. Женщины. Слалом-гигант. 1-я попытка. **4.15, 10.30, 14.05** Горные лыжи. Кубок мира. Марибор. Женщины. Слалом-гигант. 2-я попытка. **6.30** Снукер. «Мастерс». 1/2 финала. **9.30** Биатлон. Кубок мира. Оберхоф. Женщины. Эстафета. **12.10** Горные лыжи. Кубок мира. Венген. Мужчины. Слалом. 1-я попытка. **15.15** Горные лыжи. Кубок мира. Венген. Мужчины. Слалом. 2-я попытка. **16.15, 20.15** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Валь-ди-Фьемме. Гонка преследования. 10 км. **16.45** Биатлон. Кубок мира. Оберхоф. Женщины. Масс-старт. **17.45** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Закопане. HS 140. **19.45** Лыжное двоеборье. Кубок мира. Валь-ди-Фьемме. HS 104. **20.45, 21.45** Снукер. «Мастерс». Финал.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Хорошо забытое. **6.15, 17.45** Металлоломщики. **7.00** Советы юриста. **7.40, 10.15, 12.45, 16.40, 18.35, 23.30, 1.05, 3.15** Итоговые новости. **7.55, 9.10** По дорогам Второй мировой. **8.30, 9.40, 18.55** Школа внедорожного вождения. **8.50, 9.55, 11.05** Все включено. **10.30** Комплектация. **11.25, 19.30, 22.50, 3.35** Легенды автопрома. **11.40, 17.30, 19.15, 19.45, 23.10, 3.50** Проверка на дороге. **11.55, 20.05, 23.40, 4.05** Стальные парни. **13.05, 13.55, 0.30, 1.20** Испытание на прочность. **13.40** Автолайф. **14.25, 1.50** Тест на «Драйве». **15.25, 20.55, 4.50** Аварийная ситуация. **15.45** Гаражная команда. **16.55, 22.15** Автомобильные музеи мира. **21.15, 5.05** Поездка выходного дня. **21.45** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **2.45** Сити-тестер.

### EXPLORE

**6.00** Битва за карпов. **6.40, 7.35, 8.25, 9.15** Речные чудовища. **10.10, 22.55** Строительство гигантов. **11.00** Драндулеты на продажу. **11.45, 22.05** Австралийские охотники на лобстеров. **12.35, 13.20, 14.10, 14.55, 15.45, 16.30, 17.20, 18.05, 18.50** Австралийские золотоискатели. **19.40, 20.05, 20.30, 20.55** Нефритовая лихорадка. **21.20** Дикая Монтана. **23.45, 0.30** Охотники на морских ежей. **1.20, 1.50, 2.20, 2.55, 3.30, 4.00, 4.30, 5.00** Австралийские ловцы быков. **5.35** Виртуозы резьбы по дереву.

### HISTORY

**6.15** Даты, вошедшие в историю. **6.45** Расшифрованные сокровища. **7.35** Тайны музеев. **8.20** Падение империи. **9.10, 10.05** Первые цивилизации. **11.05, 11.55** Земля больших кошек. **12.50, 13.35, 1.35, 2.20** Расшифровка тайн. **14.20, 15.15, 16.15** Шелковый путь между Востоком и Западом. **17.00, 18.05, 19.00, 19.55, 23.45, 0.40** История Европы. **21.00** Затерянная пирамида Египта. **21.50** Разгадка тайны пирамид. **22.40** Наша Мировая война. **3.05** Музейные тайны. **3.50, 4.40** Запретная история. **5.30** Невероятные изобретения.

### NATURE

**6.10, 7.05, 7.55, 8.45, 22.35, 23.25, 0.20, 2.45, 5.10** Выживание в дикой природе. **9.35** В поисках Султана. **10.25** Гиамо – царица гор. **11.15** Дикий штат Карнатака, Индия. **12.10** Дикая Шри-Ланка: царство леопардов. **13.00** Дикий Токио. **14.00** Медведь – спасатель коал. **14.55, 15.40, 21.00, 21.50** Суровая Австралия. **16.30** Динозавры в Австралии. **17.15** Ветеринар из глубинки. **18.05, 19.10, 3.35** В зоопарке Таронга. **20.10** Смертоносные австралийцы. **1.10** Невероятные встречи с животными. **2.00** Мутации погоды. **4.40** Уличный ветеринар.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Научные глупости. **6.45, 7.35** Авто-SOS. **8.25, 10.05** Самые лучшие суперкары. **9.15, 10.55** Внутри невероятной механики. **11.45, 12.35** Настоящий суперкар. **13.25, 14.15** Служба безопасности аэропорта: Первый класс. **15.05, 15.55, 16.45** Свидетели катастроф. **17.35, 18.25, 19.20, 20.10** Инстинкт выживания. **21.00** Последний лёд. **22.30, 23.20** В дикой природе с Беаром Гриллсом. **0.15, 1.00, 5.10** Национальные парки Америки. **1.50** История десятилетий. **2.10, 2.45** Осушить океан. **3.35, 4.25** Антарктика.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 18.10, 22.05, 2.20** Экспедиции Андрея Старкова. **6.30, 18.40, 22.35, 2.50** Люди дикого севера. **7.20, 19.30, 23.40, 3.35** Безграничная рыбалка. **7.45, 0.10, 4.05** Рыбалка 360. **8.15, 13.05, 17.10, 0.40, 4.30** Давай зарубимся! **8.35, 20.35, 0.55, 4.45** Охота в Новом Свете. **9.00, 1.20, 5.05** Рыбалка без границ. **9.30, 1.50, 5.35** Мир рыболова. **10.00, 14.05** Россия заповедная. **10.30, 14.35** Кулинарное путешествие с Глебом Астафьевым. **11.00, 15.05, 20.00** Охота и рыбалка в. **11.30, 15.35** Егерский кордон. **12.00, 16.05** Научи меня рыбачить. **12.30, 16.35** Рыбалка с Нормундом Грабовскисом. **13.15, 17.25** Привет, Малек! **13.35, 17.40** Охота в Приволжье. **21.00** На рыбалку с охотой. **21.35** Зима. Удочка. Поклевка. **23.20** Самогон.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 14.10, 18.05, 22.00, 2.10** Преданья старины глубокой. **6.30, 10.40, 14.40, 18.35, 22.30, 2.40** Чай вдвоем. **6.45, 10.55, 14.55, 18.50, 22.50, 2.55** Сладкая жизнь. **7.00, 11.15, 15.10, 19.10, 23.05, 3.10** Тихая моя родина. **7.30, 11.45, 15.40, 19.40, 23.40, 3.55** Ремонт для начинающих. **8.00, 12.20, 20.10, 0.10, 4.20** Лучки-пучки. **8.15, 12.35, 0.25** Инструменты. **8.35, 12.50, 16.50, 0.40, 4.35** С пылу с жару. **8.50, 9.05** Огород круглый год. **9.20, 3.40** Травовед. **9.40, 13.40, 17.35, 21.30, 1.25, 5.35** 10 самых больших ошибок. **13.05, 17.05, 21.00, 0.55, 5.05** Чудеса, диковины и сокровища. **16.15, 16.30** Огород круглый год. **20.30, 4.50** Дом, милый дом! **20.45** Кухня народов СССР. **1.55** Доктор смузи.

# Тры лісты Генадзя Каханоўскага

## Да 85-годдзя пісьменніка, краязнаўцы і музейшчыка з Маладзечна

**Краязнаўца, калекцыянер і рэстаўратар Алесь Сярожкін жыве ў Оршы. На пачатку 1990-х ён з сябрамі выдаваў газету «Беларускі калекцыянер». Выйшлі з друку 25 нумароў. Цяпер гэта выданне не існуе і не радуе калекцыянераў і краязнаўцаў. З-за недахопу фінансаў спыніла сваё існаванне. Алесь Сярожкін сябраваў з многімі беларускімі творчымі людзьмі, у тым ліку і з беларускім гісторыкам, археолагам, фалькларыстам, літаратуразнаўцам, краязнаўцам, які ўсё сваё жыццё прысвяціў роднаму Маладзечанскаму краю, Генадзем Каханоўскім (1936-1994). Сёлета 8 студзеня Генадзю Аляксандравічу споўнілася б 85 гадоў з дня нараджэння.**



Фота Сяргея ПАНІЗНІКА.

Генадзь Каханоўскі падпісвае сваю кнігу.

Маладзечанскі гісторык вельмі цешыўся выхаду «Беларускага калекцыянера». Пра гэта ён не раз казаў Алесю Сярожкіну. У спадара Сярожкіна да сённяшніх дзён захаваліся тры лісты Генадзя Каханоўскага, якія ён перадаў у мой асабісты архіў. Меркавана, усе лісты былі напісаныя ў 1985 годзе, адзін з іх – датаваны дакладна. Гэта не проста невялікія пісьмы, а пісьмы-скарбы, якія хочацца чытаць і перачытваць. Таму сёння ёсць нагода іх цалкам працытаваць і апублікаваць. Дык давайце разам пачытаем, што пісаў вядомы даследчык нашай культуры Генадзь Каханоўскі Алесю Сярожкіну ў Оршу амаль 30 гадоў таму.

### Ліст першы

Глыбокапаважаны Аляксандр Міхайлавіч!

Дзякуй Вам за добрае слова пра маю кнігу «Адчыніся, таямніца часу». Я меў на ўвазе расказаць папулярна пра забытае, зніклае, страчанае.

Падзяляю Ваш клопат аб нашай спадчыне, пра аршанскія помнікі дойлідства. Сапраўды, такая багатая гісторыя Оршы і раптам яна знікае на вачах у тысяч людзей. У Оршы павінен абавязкова быць музей. Гэта ж не вёска сярод балот, а вялікі прамысловы і культурны горад на скрыжаванні мноства бойкіх дарог.

Пра ўсё тое, што мне Вы напісалі, напішыце таксама ў рэдакцыю газеты «Літаратура і мастацтва» ці ў часопіс «Мастацтва Беларусі», які ўжо Вам вядомы. А хутчэй за ўсё, у «Літаратуру і мастацтва». Магчыма, дадайце і фотаздымак Куцеінскага манастыра, калі гэта магчыма сфатаграфаваць. Сапраўды, гонар Оршы – Куцеінская друкарня. Напішыце пра страту роспісаў і г.д.

Пра пляшку я матэрыял Ваш перадам спецыялісту Маі Міхайлаўне Яніцкай – кандыдату мастацтвазнаўства, яна працуе ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (горад Мінск, вул. Сурганава, д.1, корп.2). Яна з Вамі звяжацца. У яе ёсць кнігі пра беларускае мастацкае шкло. Талковая даследчыца і цудоўны чалавек.

Дасылаю Вам сваю брашуру пра Янку Купалу, а таксама самаробную навагоднюю паштовачку.

Яшчэ раз Вам дзякуй! Пішыце. Буду рад. Генадзь Каханоўскі.

### Ліст другі

Добры дзень, Аляксандр Міхайлавіч!

Дзякуй Вам за памяць, за цікавы ліст! Я ўжо пісаў, што малюнак пляшкі я перадаў Маі Міхайлаўне Яніцкай, кандыдату мастацтвазнаўства нашага інстытута. Яна спецыяліст па беларускаму шклу, аўтар трох кніг пра яго. Лепш за яе ніхто не ведае шкла.

Пра разбурэнні помнікаў архітэктуры ў Оршы я расказаў С.В. Марцэлеву, члену-карэспандэнту АН БССР, які з'яўляецца намеснікам старшыні Рэспубліканскага Савета таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Няхай і ён ведае. Раскажу яшчэ і другому намесніку – А.П.Куліку. Я не ведаю, што яны змогуць, але хай ведаюць пра разбурэнні.

Прыемна, што ў Оршы плануецца краязнаўчы музей. Даўно пара! Я некалькі гадоў таму назад пісаў у Вашу раённую газету пра вывезеныя ў час Першай сусветнай вайны з Мінска, Ліды, Гродна розныя дакументы, кнігі, старадрукі... След іх страціўся. Хоць вядома, што яны даехалі да Оршы. Праўда, полацкія хронікі аказаліся аж у Сімбірску, якія прадавалі пудамі, як паперу для абгорткі на рынку. Толькі беларус А.Жыркевіч іх убачыў, скупіў усе і здаў у Сімбірскі архіў. Вось якія штукі бывалі.

Вы малады чалавек, і яшчэ не позна вучыцца, хоць бы завочна. Маглі б працаваць у тым жа Аршанскім краязнаўчым музеі. Станеце лепшым краязнаўцам рэспублікі, бо іх у нас вельмі мала. У Вас ёсць зацікаўленасць, а гэта самае дарагое ў чалавека.

Я сам працаваў 18 гадоў у музеі і не шкадую. Толькі ў свае 45 вырашыў паслухаць калег і пайшоў у АН БССР. Музейную работу я люблю ўсёй душой, бо быў заўсёды краязнаўцам. Шмат вандраваў. Гэта бачыце і па маіх кнігах.

Высылаю Вам яшчэ адну паштовачку. Гэта я выпусціў, працуючы ў музеі. Тыраж малы. Значкоў пра Маладзечна больш. У мяне іх тры. Ёсць і пра Уладзіміра Караткевіча.

Усяго Вам найлепшага! Здароўя, поспехаў! Генадзь Каханоўскі.

### Ліст трэці

Добры дзень, Алесь Міхайлавіч!

Дзякуй за цікавыя знаходкі, якія мне прыслалі! Вядома, я цяпер падумаю, як іх перадаць у адпаведны музей. Магчыма, і ў наш Мінскі абласны краязнаўчы, дзе я доўгі час сам працаваў. На такія рэчы трэба, каб народ глядзеў, таму трымаць дома проста няёмка.

У падзяку высылаю Вам сваю кнігу па археалогіі і гістарычным краязнаўстве. Прачытайце і выкажыце мне свае ўражанні.

Варта пачытаць маленькую кніжачку беларускага таленавітага археолага Міхася Чарняўскага «Страла Расамахі». Вельмі карысная. Раю пачытаць, хоць яна і адрасуецца школьнікам. З М.М.Яніцкай я яшчэ раз пагавару.

Са святам вясны, яе наступленнем. Генадзь Каханоўскі, 12.04.1985 г.

***

Вось такія лісты ад Генадзя Каханоўскага захоўваў калекцыянер Алесь Сярожкін. Захаваў ён і дзве паштоўкі, выдадзеныя дзякуючы Генадзю Аляксандравічу. Адна, прысвечаная Новаму году, са словамі Янкі Купалы:

*З Новым годам,*
*з Новым годам!*
*З новай песняй,*
*з новай казкай!*
*Зачаруем мімаходам*
*Долі ходы*
*думкай-краскай!*

А на другой паштоўцы – постаць самога песняра. Дзе, калі і хто іх выдаваў, на паштоўках не абазначана. Але мы цяпер ужо ведаем.

**Сяргей ЧЫГРЫН, Слонім.**

● КАЛЯНДАР

8 СТУДЗЕНЯ

**1936.** У вёсцы Дамашы ля Маладзечна нарадзіўся **Генадзь Каханоўскі**, беларускі гісторык, краязнаўца, фалькларыст, літаратуразнаўца. Памёр у Маладзечне ў 1994.

9 СТУДЗЕНЯ

**1951.** Афіцыйнае адкрыццё будынка штабкватэры ААН у Нью-Ёрку.

10 СТУДЗЕНЯ

**1972.** У вёсцы Вязынка Маладзечанскага раёна адчынены Купалаўскі мемарыяльны запаведнік.

11 СТУДЗЕНЯ

**1862.** Выйшла першая нелегальная беларуская газета «Мужыцкая праўда», якую выпускаў **Кастусь Каліноўскі**.

12 СТУДЗЕНЯ

**1906.** Нарадзіўся **Язэп Малецкі**, беларускі грамадскі дзеяч, рэдактар і выдавец, доктар. У гады Другой сусветнай вайны быў намеснікам БЦР па Вілейскай акрузе. Аўтар мемуараў «Пад знакам Пагоні».



13 СТУДЗЕНЯ

**1991.** У выніку штурму савецкімі войскамі тэлецэнтра ў Вільні загінула 14 чалавек. Адзначаецца ў Літве як Дзень абаронцаў свабоды.

14 СТУДЗЕНЯ

**1873.** Паміж Мінскам і Новай Вілейкай (Нававілейск, прыгарад Вільні) пачаўся рух цягнікоў праз Маладзечна, Смаргонь, Солы. З адкрыццём гэтага ўчастка на тэрыторыі сённяшняй Беларусі з'явіўся першы чыгуначны вузел Мінск.

**1893.** У Вільні нарадзілася **Канстанцыя Буйло**, беларуская паэтка. Памерла ў Маскве ў 1986. У 1989 урну з яе прахам перапахавалі ў Вішневе ля Валожына. У яе гонар названы вуліцы ў Валожыне, Маладзечне, Мінску. Вішнеўскай сярэдняй школе прысвоенае імя паэткі.



**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

# Календар канфесій на 2021 год

## Праваслаўны календар

**Вялікія святы**

2 мая – Вялікдзень

**Двунадзясятыя (12 важнейшых пасля Вялікадня свят)**

7 студзеня – Нараджэнне Хрыстова

19 студзеня – Хрышчэнне Гасподняе, Вадохрышча

15 лютага – Стрэчанне Гасподняе, ці Грамніцы

7 красавіка – Дабравешчанне Прасвятой Багародзіцы

25 красавіка – Уваход Гасподні ў Іерусалім (Вербніца)

10 чэрвеня – Узнясенне Гасподняе

20 чэрвеня – Святая Тройца, або Пяцідзясятніца

19 жніўня – Праабражэнне Гасподняе, або Яблычны Спас

28 жніўня – Успенне Прасвятой Багародзіцы

21 верасня – Нараджэнне Прасвятой Багародзіцы

27 верасня – Узвіжанне Крыжа Гасподняга

4 снежня – Увядзенне ў храм Прасвятой Багародзіцы

**Недвунадзясятыя**

14 студзеня – Абразанне Гасподняе

7 ліпеня – Каляды Іаана Прадцечы

12 ліпеня – Дзень святых апосталаў Пятра і Паўла

11 верасня – Усячэнне галавы Іаана Прадцечы

14 кастрычніка – Пакроў Прасвятой Багародзіцы

**Дні асаблівага памінавення памерлых**

6 сакавіка – Субота мясапусная (Сусветная бацькоўская)

27 сакавіка – субота другой сядміцы Вялікага паста

3 красавіка – субота трэцяй сядміцы Вялікага паста

10 красавіка – субота чацвертай сядміцы Вялікага паста

9 мая – памінавенне загінулых воінаў

11 мая – Радаўніца

19 чэрвеня – субота Троіцкая

**Царкоўныя пасты**

*Шматдзённыя*

15 сакавіка-1 мая – Вялікі пост

28 чэрвеня-11 ліпеня – Пятроў пост

14-27 жніўня – Успенскі пост

28 лістапада-6 студзеня – Калядны пост

*Аднадзённыя*

18 студзеня – Вадохрышчанская куцця

11 верасня – Усячэнне галавы Іаана Прадцечы

27 верасня – Узвіжанне Крыжа Гасподняга

**Бесперастанныя сядміцы**

7-18 студзеня – Святкі

22-27 лютага – Мытара і фарысея

8-14 сакавіка – Масленіца

3-8 мая – Велікодная сядміца

21-27 чэрвеня – Троіцкая сядміца

## Каталіцкі календар

1 студзеня – Святой Багародзіцы Марыі

6 студзеня – Тры Каралі

2 лютага – Ахвяраванне Пана

17 лютага – Папялец

22 лютага – Катэдры святога Пятра

19 сакавіка – Святога Юзафа

25 сакавіка – Дабравешчанне Панны Марыі

28 сакавіка – Пальмавая (Вербная) нядзеля

4 красавіка – Вялікдзень

13 мая – Унебаўшэсце

23 мая – Спасланне Духа Святога

30 мая – Святая Тройца

3 чэрвеня – Цела і Крыві Пана

24 чэрвеня – Нараджэнне святога Яна Хрысціцеля

29 чэрвеня – Святых апосталаў Пятра і Паўла

2 ліпеня – Найсвяцейшай Панны Марыі Будслаўскай

6 жніўня – Перамяненне Пана

15 жніўня – Унебаўзяцце Найсвяцейшай Панны Марыі

14 верасня – Узвышэнне Святога Крыжа

1 лістапада – Усіх Святых

2 лістапада – Дзень памінання памерлых вернікаў

28 лістапада – Першая нядзеля Адвенту

8 снежня – Беззаганнага зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі

25 снежня – нараджэнне Пана

## Мусульманскі календар

16 студзеня – Пакуты Фацімы

18 лютага – Ноч Рагаіб

19 лютага – Хіджра ў Эфіопію

25 лютага – Дзень нараджэння імама Алі

11 сакавіка – Ісра і мірадж

20 сакавіка – Наўруз

28 сакавіка – Ноч Бараат

29 сакавіка – Дзень нараджэння імама Махдзі

13 красавіка – Умра – малое паломніцтва, Рамадан – месяц паста ў мусульман

29 красавіка – Бітва пры Бадры

2 мая – Дзень фатх Мекка

3 мая – Пакуты імама Алі

7 мая – Джумуат аль-Віда

8 мая – Ноч Магутнасці і Прадвызначэння

13 мая – Бітва каля рва. Свята разгавення (Ураза Байрам, Рамадан Байрам)

15 мая – Бітва пры Ухудзе

22 мая – Бітва пры Хунейне

6 чэрвеня – Пакуты імама Джафара

12 чэрвеня – Дагавор пры Худайбіі

11 ліпеня – Пачатак месяца Зуль-хіджа

19 ліпеня – Дзень Арафат

20 ліпеня – Свята ахвярапрынашэння (Курбан Байрам)

21 ліпеня-23 ліпеня – Дні Ат-Ташрык

28 ліпеня – Гадзір-Хум

3 жніўня – Ід аль-Мубахіля

10 жніўня – Новы год па Хіджры

16 жніўня – Паход на Хайбар

18 жніўня – Ташуа імама Хусейна

19 жніўня – Дзень Ашура – дзень памінавення прарокаў пасланнікаў Алаха

8 верасня – Пачатак месяца Сафар

27 верасня – Арбаін

3 кастрычніка – Ноч Хіджры

5 кастрычніка – Дзень смерці прарока Мухамеда

6 кастрычніка – Пакуты імама Алі ар-Рыды

19 кастрычніка – Дзень нараджэння Прарока Мухамеда

## Будысцкі календар

28 студзеня – Махаянскі Новы год

10 лютага – Рытуал ачышчэння

11 лютага – Тыбецкі Новы год. Будысцкі Новы год. 15 цудаў Буды

15 лютага – Дзень сыходу ў нірвану буды Шак'ямуні

27 лютага – Чотрул Дзючэн. Макха Буча. Дзень Сангхі

28 сакавіка – Дзень нараджэння Бадхісатвы Авалокітэшвары

13 красавіка – Тайскі Новы год

27 красавіка – Тхеравадзінскі Новы год. Свята Калачакры

1 мая – Дзень ворыва

18 мая – Дзень нараджэння Буды

26 мая – Дзень нараджэння, прасвятлення і сыходу ў Нірвану Буды (Весак)

24 чэрвеня – Пасон. Дзень ачышчэння

6 ліпеня – Дзень нараджэння Далай-ламы

13 ліпеня – Кругазварот Майтрэі

19 ліпеня – Дзень нараджэння Гуру Рынпачэ

24 ліпеня – Дзень памяці Архатаў. Дзень Дхармы. Васа

22 жніўня – Дзень памінавення памерлых. Свята Зуба Буды. Фестываль галодных духаў

20 кастрычніка – Каціна. Паварана

27 кастрычніка – Сыходжанне Буды на Зямлю

19 лістапада – Свята Анапанасаці. Лой Кратхонг. Дзень Абаронцаў Вучэння

20-21 лістапада – Шэсце сланоў

29 лістапада – Свята тысячы лампад

## Іўдзейскі календар

28 студзеня – Ту-бі-Шват (Новы год дрэў Зямлі Ізраіля)

25 лютага – Тааніт-Эстэр (Пост Эстэр) дзень жалобы і посту перад святам Пурым

26 лютага – свята ў памяць аб цудоўным выратаванні яўрэяў у Персідскім царстве Пурым

28 сакавіка-3 красавіка – яўрэйскі Вялікдзень (Песах)

8 красавіка – Ём ха-Шоа (Дзень Катастрофы і Гераізму)

14 красавіка – Дзень памяці Ём ха-Зікарон

15 красавіка – Дзень незалежнасці Ізраіля Ём а-Ацмаўт

26 красавіка – Другі Песах

30 красавіка – Лаг-Баомер

8 мая – Дзень Выратавання і Вызвалення

10 мая – Дзень Іерусаліма

17-18 мая – свята даравання Торы

27 чэрвеня – Пост 17 Тамуза

18 ліпеня – Пост 9 Ава (дзень смутку і жалобы, самы трагічны дзень у яўрэйскай гісторыі)

7-8 верасня – Рош ха-Шана (Новы год ад стварэння свету)

9 верасня – Пост Гедалы

16 верасня – дзень пакаяння і малітвы Ём-Кіпур

21-27 кастрычніка – Сукот

28 кастрычніка – Шміні Ацэрат

29 кастрычніка – Сімхат Тора

29 лістапада-6 снежня – Ханука

**Склала Эмілія ХВОЯ.**

У сучасным свеце мы перанасычаныя лішняй інфармацыяй. Часам, каб знайсці цікавую кнігу ці фільм, мы губляем не адзін вечар. Таму вырашылі рабіць падборкі самых вартых твораў мастацтва, каб нашы чытачы маглі знайсці ў іх падказкі.

Гэта могуць быць кнігі, фільмы, серыялы, музыка ці карціны. Важна, каб гэта былі сапраўды вартыя ўвагі творы. Каб вы, вярнуўшыся з работы дамоў, ведалі, як з карысцю можна бавіць вечар.

Героямі гэтай рубрыкі мы запрашаем нашых чытачоў і герояў публікацый. Яны выбіраюць свой спіс і расказваюць, чаму менавіта гэтыя творы зачапілі іх. Няхай у вашых вечарах з таршэрам будзе больш вартых увагі твораў.

# У нашых руках напоўніць свет сэнсам, пакуль дыханне не растварылася ў паветры

**У сённяшнім выпуску «Таршэра» пра любімыя творы мастацтва расказвае загадчык Маладзечанскага псіханеўралагічнага дыспансера Аляксандр Бажко.**

Прачытанне добрай кнігі ці прагляд цікавага фільма, асабіста для мяне, даюць як ежу для розуму, так і магчымасць адпачыць, пераключыцца са штодзённасці ў іншы рэжым.

Дзясятак твораў, якія апынуліся найбольш значнымі, прыходзяць у свядомасць адразу. За імі паўстаюць і пражываюцца прыемныя хвіліны-ўспаміны ад знаёмства. Хачу падзяліцца і з вамі.

### 1. Кен Кізі «Пралятаючы над гняздом зязюлі»

Кізі далёка не першы аўтар, хто напісаў пра вар'ятаў, якія пры дэталёвым знаёмстве аказваюцца больш разумнымі і здаровымі, чым тыя, хто выступае за іх ізаляцыю. Прыгадваюцца Сервантэс з яго Дон Кіхотам, затым Гогаль, Набокаў, Хелер і многія іншыя знакамітыя пісьменнікі, якія закранулі тэму.

Дзеянне рамана адбываецца ў псіхіятрычным аддзяленні, што само па сабе – магутная метафара. Многія персанажы знаходзяцца ў яго сценах абсалютна добраахвотна, рухомыя пачуццём віны, страхамі, нізкай самаацэнкай. Гэта раман аб прыгнёце і прыніжэнні, і тым, што людзі добраахвотна выракаюць сябе на рознага роду прымусы.

Тут пра адноснасць нормы і паталогіі. Барацьба з сістэмай – подзвіг заўсёды і ўсюды безразважны і ахвярны, але кожная такая ахвяра вызваляе нечыю душу. Так што варта хоць бы паспрабаваць.

### 2. Джордж Оруэл «Ферма»

Сатырычнае апавяданне-прытча пра тое, чым заканчваюцца перамены. Оруэл паказаў перараджэнне рэвалюцыйных прынцыпаў і праграм, паступовы пераход ад ідэй роўнасці і пабудовы ідэальнага грамадства да дыктатуры і таталітарызму.

Гэта павучальная алегорыя на рэвалюцыю 1917 года і ўсе наступныя. У гэтым годзе перачытаў.

### 3. Ірвін Ялом «Калі плакаў Ніцшэ»

Кнігі амерыканскага псіхіятра і псіхатэрапеўта, пісьменніка Ірвіна Ялома заўсёды падымаюць вострыя і балючыя пытанні, якія рэдка выносяцца на адкрытае абмеркаванне. Незабыўнае ўражанне ад «Калі плакаў Ніцшэ». Спачатку чытаць дзіўна і нязвыкла, але пасля немагчыма адарвацца.

Немагчыма ўтрымацца ад таго, каб паралельна не думаць пра нейкія свае таемныя куткі свядомасці і не спрабаваць выцягнуць іх на свет.

Ялом піша пра страх смерці, які ёсць ва ўсіх людзей, пра канчатковасць нашага жыцця. Кніга вучыць зразумець і прыняць умовы чалавечага існавання, шанаваць кожную хвіліну жыцця.

### 4. Паўла Каэльё «Алхімік»

«Алхімік» – самы вядомы раман бразільскага пісьменніка Паўла Каэльё, кніга-правадыр у свет чалавечага лёсу. Яна пра тое, што неабходна прыслухоўвацца да свайго сэрца, каб выбраць свой праўдзівы шлях, і тым самым стаць шчаслівым.

«Дамагчыся ўвасаблення свайго лёсу – вось адзіны сапраўдны абавязак чалавека...» – сцвярджае Паўла Каэльё. У юнацтве людзі не баяцца марыць, усё здаецца ім магчымым. Але праходзіць час, і таямнічая сіла пачынае ім даводзіць, што іх жаданні нездзейсныя.

Я ведаю рэальных людзей, чыё жыццё гэты раман-прытча змяніў карэнным чынам.

### 5. Герман Гесэ «Сідхартха»

Алегарычны раман-прытча пра шлях адзіночкі. Ён апавядае аб Сідхартху, усімі паважаным і дзіўным, які прысвяціў жыццё пошуку Адзінага, што жыве ў кожным чалавеку. Кніга з'яўляецца пранікненнем ва ўсходнюю філасофію. Чытаецца на адным дыханні і пакідае жаданне пазней вярнуцца да яе і перачытаць.

### 6. Міхаіл Булгакаў «Сабачае сэрца»

Любы твор гэтага пісьменніка можна лічыць скарбам найбагацейшай рускай мовы і гумару, які пераходзіць у сатыру і сарказм.

Булгакаў – містычны пісьменнік. Яму ўласцівая незвычайная здольнасць убачыць будучыню. «Сабачае сэрца» чытаецца лёгка, думаецца доўга. Экранізацыя – асобны твор мастацтва.

### 7. Яўген Грышкавец «Як я з'еў сабаку»

Вельмі незвычайнае, далёкае ад таго, што даводзіцца бачыць і чытаць. Пастаноўка, відэаэкранізацыя, кніга-п'еса.

Грышкавец распавядае нам гісторыю не нейкага там абстрактнага чалавека, а гісторыю кожнага з нас. У маналогу яго персанажа даведаемся пра сябе, успамінаем свае радасці і смутак, свае дзіцячыя страхі і мары.

Ён змог выказаць словамі тое, што кожны з нас захоўвае дзесьці глыбока ў душы, штосьці цёплае і роднае, настальгія па чым жыве ў кожным з нас. Нягледзячы на спакойны рытм апавядання, гэты маналог прасякнуты эмоцыямі – у ім гумар і іронія суседнічаюць з сумам і настальгіяй.

### 8. Пол Каланіці «Калі дыханне раствараецца ў паветры»

Кніга цікавая і трагічная. Цікавая, таму што напісаная доктарам і пісьменнікам, а пісьменнікаў-дактароў (Чэхаў, Верасаеў, Булгакаў, Амосаў) заўсёды чытаць цікава. Паглядзець на свет вачыма доктара – гэта нестандартны досвед.

У ёй чарговы раз разумееш, жыццё – гэта набор момантаў, яркіх уражанняў, падзей, дзе ты адчуваеш радасць, шчасце, каханне, боль, смутак і многае іншае, дзе ты выдатны сябар, каханая жонка або важны супрацоўнік. У нашых руках напоўніць наш свет сэнсам. Таму што ў любы момант, калі ты гэтага зусім не чакаеш, тваё дыханне можа проста растварыцца ў паветры...

### 9. Фрыц Перлз «Унутры і звонку памыйнага вядра»

Перлз – заснавальнік аднаго з самых папулярных і эфектыўных метадаў псіхатэрапіі – гештальт-тэрапіі. Дзякуючы гэтаму метаду сотні тысяч людзей ва ўсім свеце здабылі ўпэўненасць у сваіх сілах і магчымасцях, здабылі статус гаспадароў свайго жыцця.

Вобраз аўтара, гісторыя яго пошукаў, духоўнага росту, філасофскіх разважанняў спалучаюцца з цікавымі навуковымі назіраннямі і высновамі, якія ўяўляюць, як мне здаецца, вялікую цікавасць для ўсіх, хто цікавіцца сучаснай псіхалогіяй.

Кніга заахвочвае разважаць, раскрываць сябе, быць смелым, розным, марыць, спадзявацца і дасягаць.


Фота Настассі УТКІНАЙ.

Загадчык Маладзечанскага псіханеўралагічнага дыспансера Аляксандр Бажко.

### 10. Святлана Алексіевіч «Час сэканд хэнд»

Кніга магутная. Пра вялікі разлом. Калі скончылася савецкае сацыялістычнае жыццё і пачалося новае, капіталістычнае. Пра пачуцці і думкі людзей тады. Лічу кнігу пранізлівай і праўдзівай. Асобна ўсміхнула, што «за семдзесят з лішнім гадоў у лабараторыі марксізму-ленінізму вывелі асобны чалавечы тып – homo soveticus.

### 11. Віктар Марціновіч «Рэвалюцыя»

Нячаста чытаю на беларускай мове, бо больш цікаўлюся прафесійнай літаратурай, а яна пераважна на рускай. Назва прыцягнула ўвагу да нашай беларускай культуры. Ад мовы і выкладання атрымаў вялікае задавальненне.

Рэвалюцыя – доўгі ліст-адкрыццё ад галоўнага героя дзяўчыне, якую калісьці кахаў. Але гэта фасад. Акрамя гэтага ёсць яшчэ напружаны, дынамічны сюжэт. Ёсць апісанне крыві, што пырскае, і паўтрупа, што паўзе, не захапіцца было немагчыма. Маюць месца развагі пра маральны імператыў Канта і прыроду ўлады. Цяга да ўлады актуальная і вечная.

# Рамуальда Улана асудзілі на два з паловай гады за паклёп на міліцыянераў

СМАРГОНЬ

**Пасля абвяшчэння прысуду частка людзей, што прыйшла падтрымаць Улана, праскандавала: «Ганьба!».**

Улану паставілі ў віну тое, што ён распаўсюдзіў заведама непраўдзівыя звесткі, якія ганьбяць гонар і годнасць міліцыянераў. Пацярпелымі па справе праходзяць сямёра супрацоўнікаў Смаргонскага райаддзела міліцыі. Справу разглядаў суддзя **Сяргей Боландзь**, дзяржаўным абвінаваўцам выступіў **Андрэй Клышэвіч**.

5 студзеня ў судзе Смаргонскага раёна абвясцілі прысуд прадпрымальніку і былому ўладальніку і рэдактару «Новай газеты Смаргоні» 55-гадоваму Рамуальду Улану. Суд прызнаў віноватым у распаўсюджанні заведама лжывых звестак, якія ганьбяць іншую асобу, і на падставе артыкула 188 Крымінальнага кодэкса «Паклёп» прызначыў пакаранне – два з паловай гады абмежавання свабоды з накіраваннем у выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу («хімія»). Спагнаць на карысць пацярпелых Уласенкі, Замары, Кавязы, Ражко кампенсацыю маральнай шкоды ў памеры 300 рублёў кожнаму. Спагнаць на карысць пацярпелых Каравая, Малчанава і Ткачова кампенсацыю ў памеры па 500 рублёў кожнаму.

Максімальнае пакаранне, якое прадугледжвае артыкул 188, – абмежаванне свабоды тэрмінам да трох год. Менавіта такую санкцыю запатрабаваў дзяржаўны абвінаваўца, а таксама кампенсацыю пацярпелым у памеры 1000 рублёў кожнаму.

## За што судзілі Улана

24 верасня ў гарадской суполцы ў сацыяльнай сетцы «Укантакце» «Чуткі Смаргонь» размясцілі пост з карцінкай з мультфільма «Том і Джэры», дзе кот адчыняе дзверы, у якія ўваходзяць некалькі іншых катоў. Зверху надпіс «Калі цябе пакрыўдзілі ў «Чутках» і ты клічаш падтрымку». Зверху аўтар публікацыі напісаў: «Калі не абароніцца, то хоць палайкаюць. Знаёма?».

Пад гэтым пастом Рамуальд Улан размясціў два каментары, за якія прадпрымальніка і прыцягнулі да адказнасці. У першым ён размясціў два фотаздымкі з лістоўкамі пра міліцыянераў і допісам: «Вось гэтыя таварышы «ў рэале», а не «Чутках» атрымліваюць дызлайк». У другім – яшчэ два фотаздымкі лістовак з допісам: «Смелыя смаргонскія партызаны... Хто фальсіфікуе препаколы, парушае наша заканадаўства. Радзіма павінна ведаць сваіх «герояў».

У саміх лістоўках былі асабістыя дадзеныя міліцыянераў, фотаздымкі, у некаторых – інфармацыя пра членаў сямей. Таксама на лістоўках былі паведамленні, якія абвінавачваюць іх у лжэсведчанні і іншых злачынствах.

> **На судовым пасяджэнні Улан віну цалкам не прызнаў, хаця не адмаўляў, што фотаздымкі лістовак і подпісы размясціў ён.**

Пацярпелыя па справе сямёра міліцыянераў, інфармацыя пра якіх была размешчаная на лістоўках, – оперупаўнаважаны аддзялення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі крымінальнай міліцыі старшы лейтэнант **Ігар Замара**, старшы ўчастковы інспектар аддзела аховы і правапарадку і прафілактыкі міліцыі грамадскай бяспекі капітан **Андрэй Кавяза**, участковы інспектар міліцыі аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі старшы лейтэнант **Аляксей Ражко**, начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі міліцыі грамадскай бяспекі падпалкоўнік **Руслан Ткачоў**, начальнік аддзялення інфармацыйнага забеспячэння капітан **Аляксандр Уласенка**, старшы інспектар па дазваляючай працы аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі капітан **Сямён Малчанаў**, начальнік штаба маёр **Віктар Каравай**. На судовых пасяджэннях прысутнічалі шасцёра пацярпелых, Кавяза не прысутнічаў па ўважлівай прычыне.

## Падчас суда

На судовым пасяджэнні Улан не пагадзіўся, што інфармацыя ў лістоўках заведама непраўдзівая. Ён патлумачыў, што на той момант чуў пра апраўдальныя судовыя прыгаворы па адміністрацыйных справах. Таму калі ўбачыў па дарозе на працу лістоўкі на дошцы аб'яў, вырашыў, што інфармацыя на іх адпавядае праўдзе. Сфатаграфаваў, а пасля размясціў у сацыяльнай сетцы, пры гэтым не думаў, што звесткі будуць чытэльныя з-за сціскання фотаздымкаў.

Падчас допыту капітан Уласенка паведаміў, што інфармацыя пра яго ў лістоўцы супярэчыць праўдзе і яго перакананням. Даводзілася тлумачыць сітуацыю знаёмым і даказваць, што напісанае там няпраўда, што маральна было не проста абвяргаць змест лістоўкі многім дарагім людзям. Сярод абвінавачанняў у лістоўцы было пра тое, што Уласенка сочыць за жыхарамі горада. Капітан міліцыі патлумачыў, што ўдзельнічаў у ахове парадку падчас несанкцыянаваных масавых мерапрыемстваў. І па роду дзейнасці не сочыць, а назірае за ўдзельнікамі масавых мерапрыемстваў.

Старшы лейтэнант Замара сказаў, што шмат сіл аддаў, каб патлумачыць бацькам і сябрам, чаму з'явілася такая інфармацыя і што свае маральныя пакуты ацэньвае ў 1000 рублёў. На пытанне, ці ганьбіць яго фраза «Сочыць за жыхарамі» адказаў, што не сочыць, а дакументуе.

Маёр Каравай на пытанне абароны, ці ганьбіць яго фраза пра сачэнне за жыхарамі, адказаў, што здымае іх адкрыта. Сказаў, што была размешчаная інфармацыя пра дзяцей і фота жонкі і інфармацыя, якая кампраметуе і не адпавядае рэчаіснасці.

Капітан Малчанаў сказаў, што давялося тлумачыць блізкім наконт зместу лістоўкі. Старшы лейтэнант Ражко сказаў, што непраўдзівыя паказанні ніколі не даваў, а працуе ён з людзьмі, таму пасля такой інфармацыі хвалюецца, як людзі на яго будуць глядзець.

Падпалкоўнік Ткачоў сказаў, што абвінавачанні ў лістоўцы пра яго не адпавядаюць праўдзе, акрамя фразы «Не ведае законаў РБ», таму што ўсе законы ведаць немагчыма. Дадаў, што злачынныя загады ніколі не аддаваў. Падчас вучобы ў канцы 80-х – пачатку 90-х Улан быў яго выкладчыкам.

Міліцыянеры падчас суда падтрымалі іскавыя патрабаванні наконт кампенсацыі шкоды на суму 1000 рублёў кожнаму.



Рамуальд Улан у судзе Смаргонскага раёна пасля зачытвання прысуду.

Фота Насіся УПЕНЬ.

## Што сказаў Улан у апошнім слове

У апошнім слове Улан сказаў, што, на яго думку, жыхары маюць права на свабоднае выказванне меркавання і мірныя дэманстрацыі, гэта не забаронена і заканадаўствам. Менавіта працэс пасля выбараў стаў штуршком для гэтай справы, прычынай з'яўлення лістовак. Лістоўкі ён не вырабляў, а паказаў факт іх з'яўлення. Яны адлюстроўваюць супрацьстаянне жыхароў і прадстаўнікоў улады. З боку міліцыянераў не было спробы выдаліць тыя каментары, што сталі падставай крымінальнай справы. Па меркаванні Улана, гэта сведчыць, што міліцыянеры не імкнуліся спыніць іх распаўсюджанне і ,адпаведна, само правапарушэнне, калі яны лічаць, што гэта яно.

> **– Судовы працэс гістарычны для смаргонскага суда, спадзяюся, гісторыя расставіць усё на свае месцы, – сказаў Улан.**

Некаторыя прысутныя пасля абвяшчэння прысуду скандавалі: «Ганьба!».

## Праваабаронца: «Прысуд палітызаваны»

Пасля прысуду смаргонскі праваабаронца **Алесь Дзергачоў** пракаментаваў журналісту «РГ»:

– Прысуд палітызаваны. Лістоўкі вырабляў і прымацоўваў не ён. Таму прысуд вельмі жорсткі.

Рамуальд Улан падсумаваў, што будзе абскарджваць прысуд. Прадпрымальнік перажывае, як накіраванне ў выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу адаб'ецца на яго бізнесе. 60-70% дзейнасці выконвае ён сам, таму перажывае, што пад рызыкай застанецца справа паслуг друку.

Калі яшчэ ў верасні ва Улана канфіскавалі рэчы з офіса, смаргонец звярнуўся да земляхоў з просьбай дапамагчы з аргтэхнікай, каб не спыняць прадпрымальніцкую дзейнасць. За два дні для яго сабралі 90% тэхнікі, патрэбнай для працы.

Прыгавор не ўступіў у законную сілу.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77



Фота Іны СУБОЦІНАЙ.

Дзяцел стракаты.

# Колькі птушак прылятае на беларускія кармушкі? «Ахова пцтушак Бацькаўшчыны» ладзіць штогадовую акцыю

**Грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) ладзіць акцыю «Птушкі ля кармушкі», якая пройдзе 16-17 студзеня. У ёй можа паўдзельнічаць кожны і дапамагчы адсачыць змены ў папуляцыі птушак.**

### Акцыя «Птушкі ля кармушкі»

У Вялікабрытаніі дзякуючы штогадовым падлікам птушак на кармушках заўважылі скарачэнне папуляцыі шпакоў на 81% за паўстагоддзя такіх назіранняў. Такі падыход называецца «народная навука», бо ён дапамагае сабраць вялікую колькасць дадзеных для аналізу.

Калі тысячы людзей па ўсёй краіне з году ў год лічаць птушак па адной методыцы, то дробныя памылкі робяцца статыстычна неістотнымі, а сур'ёзныя змены ў папуляцыях – заўважнымі.

**Для большай дакладнасці ўсе назіранні праходзяць ацэнку экспертаў.**

– Часам нам дасылаюць непраўдападобныя дадзеныя. Напрыклад, калі на кармушку прыляцела чарада птушак, якія звычайна трымаюцца паасобку або некалькімі асобінамі. Часам, пры сумневах, мы звязваемся з аўтарам назірання і ўдакладняем дэталі, – расказаў спецыяліст АПБ па прыродаахоўных пытаннях **Сямён Левы**.

### Як паўдзельнічаць

У акцыі «Птушкі ля кармушкі» можа ўдзельнічаць кожны. АПБ падрыхтавала міні-вызначальнік птушак, каб было прасцей вызначаць яе від. Знайсці яго можна на сайце **ptushki.org**.

**Каб у дні акцыі да ўдзельнікаў завітала больш птушак, АПБ раіць павесіць кармушку загадзя і папаўняць яе нясмажанымі несалёнымі чорнымі семкамі – гэта ўніверсальная падкормка для птушак.**

Да галінкі можна прычапіць кавалачак несалёнага нясмажанага сала для сініц і дзятлаў. У кармушку нельга класці хлеб, батон ці іншую ежу з чалавечага стала.

### Як лічыць птушак

Трэба на працягу адной гадзіны падлічыць віды і колькасць птушак на сваёй кармушцы. Гэтыя дадзеныя пасля перадаюцца арганізатарам на сайце ptushki.org ці праз сацыяльныя сеткі «Аховы птушак Бацькаўшчыны».

Птушак можна лічыць і больш за гадзіну, але тады для кожнай гадзіны павінны быць свае справаздачы. У ёй трэба адзначаць, у які час прыляцелі птушкі.

Для кожнага віду птушак на працягу назірання трэба запісваць максімальную колькасць асобін, якую пабачыў назіральнік. Напрыклад, калі вы пабачылі, як на кармушцы карміліся чатыры зелянушкі, а потым прыляцелі яшчэ і іх стала 10, то гэту колькасць птушак і трэба ўказваць у справаздачы.

**«Ахова птушак Бацькаўшчыны» заўважае, што трэба лічыць таксама і гракоў, галубоў, варон, калі яны прылятаюць да кармушкі.**

Звычайна на кармушкі ў гарадах завітваюць вялікія сініцы, палявыя і дамавыя вераб'і. Усе гады акцыі «Птушкі ля кармушкі» яны былі ў топ-3 відаў, якія наведваюць кармушкі ў Беларусі. Прылятаюць і сініцы іншых відаў, зелянушкі, таўстадзюбы, дзятлы, часам назіраюць пералётных птушак.

### Для лепшых назіральнікаў – прызы

Сярод усіх, хто дашле вынікі сваіх падлікаў праз спецыяльную форму на сайце ptushki.org, «Ахова птушак Бацькаўшчыны» разыграе 10 значкоў-птушак. Шанец выйграць птушыныя сувеніры маюць і тыя, хто загрузіць свае фота і відэа з кармушак у сацыяльныя сеткі з надпісам #птушкілякармушкі.

**Паводле паведамлення АПБ.**

# Гісторыя шахмат. Фігуры «Цар» і «Слон»

**Расказваем пра гісторыю такіх шахматных фігур, як «Цар» і «Слон».**


Фота chessrussian.ru.

Кароль.


Фота wikipedia.org.

Слон.

Шахматная фігура «Цар» і праз тры стагоддзі небяспечная ў выкарыстанні. У старажытнасці галоўная шахматная фігура на Русі называлася «Цар». Аднак такое найменне ў расійскай спецыфіцы аказалася небяспечным.

Можна ўспомніць выпадак – «гасударава справа» 1686 года аб служывым чалавеку **Марчко Хамякове**. Ён гуляў у шахматы з **Андрушкаю Валыншчыкам**, зняў з дошкі фігуру, загуляўся і адпусціў у адрас шахматнай фігуры «Цар» некалькі моцных слоў. А так як гульня вялася пры сведках, пра тое стала вядома енісейскаму ваяводзе. «Вінаватага» каталі, ён павінны быў даказваць, што не было ў яго словах злога намеру.

Можна зразумець, чаму ў 17-18 стагоддзях паступова распаўсюдзіўся русіфікаваны польскі тэрмін «Кароль». Канчаткова гэты адзіны тэрмін увёў і замацаваў сваім аўтарытэтам першага майстра Расіі **Аляксандр Пятроў**. Ён служыў у канцылярыі Яго Імператарскай Вялікасці, таму выдатна ведаў усе цяжкасці звароту са словам «Цар».

У Англіі шахматную фігуру «Слон» называюць «Біскуп» (Bishop). Чаму ж у гэтай цікавай фігуры такія розныя назвы? Усё проста! Еўрапейцам, якія ніколі не бачылі сланоў, было цяжка знайсці месца гэтай жывёліне пры двары караля на шахматнай дошцы.

У Францыі стылізаваная выява слана з індыйскіх шахмат была прынятая за каўпак прыдворнага блазна, таму фігура стала называцца Fou, што значыць «Блазан». У Англіі фігура нагадвала галаўны ўбор біскупа, што добра ўпісвалася ў тагачасную структуру ўлады: кароль, каралева і царква. У Еўропе па-рознаму ў розных краінах называюць шахматнага слана. Прывяду прыклады самых вядомых назваў гэтай шахматнай фігуры.

**Італія**: «Сцяганосец».
**Германія**: «Бягун».
**Францыя**: «Блазан».
**Вялікабрытанія**: «Біскуп».

У рускай мове да сярэдзіны 19-га стагоддзя «Слана» называлі «Афіцэрам». Адгалоскі гэтай назвы да гэтага часу блукаюць у галовах сівых старых, якія часам па спадчыне перадаюць свае веды маладым. Аднак цяпер адзіная правільная назва гэтай фігуры – «Слон».

**Віталь КАЧАТКОЎ.**

## Віталь Жукоўскі – новы трэнер БАТЭ

Новым галоўным трэнерам барысаўскага БАТЭ афіцыйна стаў былы настаўнік «Іслачы» **Віталь Жукоўскі**.

Як паведамляе сайт барысаўскага клуба, футбольны лёс прывёў Віталя Жукоўскага ў БАТЭ не першы раз.

**У 2001-2002 гадах ён выступаў у складзе барысаўскага дубля і быў яго капітанам.**

Аднак з-за траўмы калена, якая была вельмі сур'ёзная, Жукоўскі не змог працягнуць гульнявую кар'еру.

**Шлях галоўнага трэнера ён пачаў у 2010-м, калі стаў кіраваць «Іслачу», якая заявілася ў чэмпіянат Мінскай вобласці.**

З таго моманту з «ваўкамі» ён прайшоў усе этапы беларускіх ліг.

**Паводле football.by.**

## Расійскі хакеіст падпісаў кантракт з «Дынама-Маладзечна»

Расійскі хакеіст **Дамір Галін** падпісаў кантракт з маладзечанскім «Дынама». Ён ужо згуляў першыя матчы ў складзе каманды.

Галін з'яўляецца выхаванцам сістэмы «Ак Барс». Ён паспеў пагуляць у МХЛ і ВХЛ, тры сезоны правёў у другой фінскай лізе Mestis. Галін выступаў за расійскую зборную на чэмпіянаце свету 2012 сярод юніёраў.

**Паводле hcmolodechno.hockey.by.**

## У 2020 годзе за допінг дыскваліфікавалі 10 беларускіх спартсменаў

Дырэктар НАДА Беларусі **Дзяніс Мужжухін** расказаў, што ў 2020 годзе НАДА планавала адабраць у спартсменаў 2000 проб, аднак з-за пандэміі COVID-19 план тэставання быў перагледжаны і адабралі 1523 пробы.

– У адпаведнасці з атрыманымі заключэннямі з акрэдытаваных Сусветным антыдопінгавым агенцтвам лабараторый, пяць проб далі станоўчы вынік аналізу на допінг. Найбольшая колькасць парушэнняў антыдопінгавых правілаў выяўлена ў такіх відах спорту, як лёгкая атлетыка, цяжкая атлетыка, грэка-рымская барацьба, – адзначыў Мужжухін.

Па словах Мужжухіна, з кожным годам колькасць тэстаў будзе павялічвацца. Усяго ў 2020 годзе за допінг у спорце было дыскваліфікавана 10 беларускіх спартсменаў.

**З іх пяць дыскваліфікаваныя НАДА, а астатнія – іншымі антыдопінгавымі арганізацыямі.**

Мужжухін адзначыў, што два спартсмены, якія раней былі дыскваліфікаваныя за допінг, парушылі забарону на ўдзел у спаборніцтвах ці іншай дзейнасці на тэрмін дыскваліфікацыі.

**Паводле by.tribuna.com.**



Графіка L'Equipe.

## Прадстаўленая сімвалічная зборная свету па футболе

**Французскае выданне L'Equipe прадставіла сімвалічную зборную свету, складзеную па выніках 2020 года.**

Месца ў камандзе не знайшлося форварду «Барселоны» **Ліянэлю Месі**. Пры гэтым у складзе адразу пяцёра прадстаўнікоў «Баварыі», якія за апошнія 12 месяцаў заваявалі пяць трафеяў.

**Ад «Пары Сен-Жэрмен», які гуляў з мюнхенцамі ў фінале Лігі чэмпіёнаў, у зборную трапіў толькі адзін футбаліст.**

Галкіпер: **Мануэль Нойер** («Баварыя»);

Абаронцы: **Альфонса Дэвіс** («Баварыя»), **Сэрхіа Рамос** («Рэал»), **Вірджыл ван Дэйк** («Ліверпуль»), **Аляксандэр-Арнолд Трэнт** («Ліверпуль»);

Паўабаронцы: **Цьяга Алькантара** («Баварыя»/«Ліверпуль»), **Ёзуа Кіміх** («Баварыя»), **Кевін дэ Бруйнэ** («Манчэсцер Сіці»), **Нэймар** («ПСЖ»);

Форварды: **Крыштыяну Раналду** («Ювентус»), **Роберт Левандоўскі** («Баварыя»).

**Паводле L'Equipe.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Плоскі, адносна шырокі і нятоўсты кавалак дрэва, выпілаваны або вычасаны з бервяна.
3. Садзейнічанне, падтрымка.
6. Гаспадар залатой табакеркі з беларускай казкі.
7. Сярод нататкаў Андрэя Макаёнка ёсць запіс 1961 года: «Як у вас справы ў калгасе? – Як на ТУ-104 – ??? – Адзін вядзе, а ўсіх ...».
11. Афіцыйнае распараджэнне органа ўлады, кіраўніка ўстановы, прадпрыемства, арганізацыі.
12. Мана, няпраўда, наўмыснае скажэнне фактаў.
14. Званне пераможцы ў спартыўных спаборніцтвах, гульнях на першынство, а таксама асоба або каманда, удастоеныя такога звання.
15. У племені таджу ў Індыі разводы з'яўляюцца выключнай справай. Лічыцца, справа ў тым, што яна тут дзеліцца на мужчынскую і жаночую.
17. Бясплатна, за нішто.
18. Верхняе дамашняе або рабочае адзенне, якое захінаецца або зашпіляецца.
19. Іван Шамякін прыгадвае, што ў дзень смерці Сталіна прыйшоў да Андрэя Макаёнка і Аляксея Русецкага. Тыя выпівалі, і Шамякін быў ашаломлены іх весялосцю. Спытаўся, як яны так могуць. Макаёнак адказаў, што такое месца пустым не бывае і прапанаваў выпіць за яго ўпакой, а яны ж з Аляксеем выпілі за ...
24. Калі яе бачылі старажытныя грэкі, то казалі: «Гэта слёзы багіні зары Эос.
25. Праца, справа.
26. Невялікі заліў рэчкі або возера з запаволеным цячэннем.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Надзея Яноўская з аповесці Караткевіча называла гэта «божы сад».
4. Частка акружнасці або круглаватай крывой лініі.
5. Пахілая паверхня гары, берага.
8. Пэўная колькасць чаго-небудзь, прыгатаванага на будучае.
9. Прыбор для накаплення энергіі з мэтай далейшага яе выкарыстання.
10. Памер заработнай платы, устаноўлены ў адпаведнасці з пасадай работніка.
13. Гэты прыдуманы монстр быў створаны з выкарыстаннем рубцоў, што выжылі пасля бамбардзіроўкі Хірасімы.
16. У жывёл: прыдатак (звычайна рухомы) на заднім канцы цела.
20. Сукупнасць сродкаў, накіраваных на забеспячэнне краіны, народа ад нападу ворагаў.
21. Нядобрасумленная, неахайная, выкананая без ведання справы работа.
22. Абмежаваная частка чаго-небудзь, напрыклад, лініі.
23. Калі амерыканскі прэзідэнт Картэр выступаў перад аўдыторыяй гэтай краіны, то пачаў выступленне з жарту. Прысутныя вельмі гучна засмяяліся, тады прэзідэнт запытаўся ў перакладчыка, як таму ўдалося перадаць жарт. Перакладчык адказаў, што пераклаў так: «Прэзідэнт расказаў смешную гісторыю. Усе павінны смяяцца».
27. Прыстасаванне для аўтаматычнага адмервання або адважвання сыпкіх, вадкіх, газападобных рэчываў.
28. Пра тое, што мае форму ламанай лініі.

## Адказы на крыжаванку з №1

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Струмень. 3. Шакалад. 4. Паралакс. 5. Свабода. 11. Шанэль. 12. Шуфляда. 13. Марля. 16. Цмок. 17. Савяня. 18. Мазок. 20. Звязда. 21. Месца. 22. Гледачам. 24. Структура. 26. Роўнасць.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Трава. 6. Сальда. 7. Мудрэц. 8. Шампунь. 9. Спрыяць. 10. Манблан. 13. Марозка. 14. Спаць. 15. Паляванне. 18. Малпа. 19. Здзіўляцца. 23. Братэрства. 25. Разам. 27. Коні.

## ● ГАРАСКОП НА 8-14 СТУДЗЕНЯ

**АВЕН.** Актыўны і творчы дзень для людзей, звязаных з бізнесам. Важна будзе своечасова сфармуляваць мэты і задачы. Пры сустрэчы з каханым чалавекам пастарайцеся ставіць сябе на яго месца.



**ЦЯЛЕЦ.** Неабходна быць уважлівымі да здароўя. Магчыма, давядзецца вырашаць пытанні асабістага жыцця. На шчасце, гэта вельмі спрыяльны перыяд, каб закрыць праблемныя пытанні лагодна.



**БЛІЗНЯТЫ.** Зоркі дададуць вам валявых якасцяў, што дапаможа вырашыць шматлікія пытанні вам на карысць. У галаве будзе шмат карысных ідэй. У асабістым жыцці чакае шмат задавальнення.



**РАК.** Спрыяльны час для паездак і прыгод. Творчы падыход дапаможа работнікам інтэлектуальнай працы. Пастарайцеся выдзеліць час для прагулкі на прыродзе, вам гэта акажацца неабходным.



**ЛЕЎ.** Перыяд асабліва спрыяльны для людзей, якія занятыя творчасцю. Магчымыя цікавыя сустрэчы з сябрамі, якія вас не толькі расслабяць, але і падораць шмат радасці. Паспяховыя аперацыі з фінансамі.



**ДЗЕВА.** Вы будзеце бадзёрыя і ініцыятыўныя, усе справы будуць ладзіцца. Актуальнымі будуць пытанні, звязаныя з грашыма. Паспрабуйце распрацаваць фінансавы асабісты план на бліжэйшыя месяцы.



**ШАЛІ.** Перыяд будзе напружаны. Раптоўна прынясуць вынік справы, якія лічылі непаспяховымі. Не бойцеся нечаканага супрацоўніцтва, яно можа даць выгадныя сувязі.



**СКАРПІЁН.** Можа адбыцца няпростая сітуацыя ў асабістым жыцці, з-за чаго давядзецца перагледзець цяперашнія адносіны. Перыяд спрыяльны для пакупак, увогуле ўсё будзе ўдала ў фінансавым аспекце.



**СТРАЛЕЦ.** Прыйшоў час, калі давядзецца разбірацца з вынікамі нядаўняй працы. Магчыма, будуць прычыны хваліцца за сям'ю, але нічога сур'ёзнага.



**КАЗЯРОГ.** Пастарайцеся быць адкрытымі для дыялогаў на няпростыя тэмы. У гэтым будзе неабходнасць як у вас, так і ў партнёра. У працы чакайце цікавую прапанову.



**ВАДАЛЕЙ.** У вас будзе жаданне марыць і будаваць планы. Пастарайцеся суадносіць іх з рэальнасцю, так вы зможаце атрымаць план, як можна дасягнуць жаданага па пунктах.



**РЫБЫ.** У вас будзе выдатная рабочая форма, якая дапаможа выканаць задачы любой складанасці. Каб прывесці розум у такую форму, больш адпачывайце.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | | 9 | 8 | | | 4 | | |
| 4 | 6 | | | 3 | | | | |
| | | | 7 | | | | 5 | 6 |
| | 5 | | 2 | | 3 | 8 | | |
| 7 | 4 | | | | | | 1 | |
| 9 | 3 | | | | | 7 | | |
| 2 | 9 | 5 | | 8 | | | | |
| 1 | 8 | | 3 | | | | | |
| | | 6 | 1 | 2 | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY


# Дайджэст: Падаражэлі электрычнасць і алкаголь

**Што адбывалася ў Беларусі на мінулым тыдні, прапануем прыгадаць у нашым аглядзе падзей.**

### Новы транспартны падатак: калі і колькі трэба будзе плаціць

Ад 1 студзеня замест дзяржпошліны за выдачу дазволу на допуск машыны да ўдзелу ў дарожным руху будзе транспартны падатак. Плаціць прыйдзецца менш, а працэс будзе адвязаны ад тэхагляду. Транспартны падатак будуць плаціць усе ўласнікі аўтамабіляў, зарэгістраваных у базе ДАІ МУС. Стаўкі падатку ў параўнанні з дзяржпошлінай знізяцца. Прадугледжаны льготы для пенсіянераў, людзей з інваліднасцю. Вызваляюцца ад падатку таксама ўласнікі электрамабіляў і аўто, выпушчаных да 1991 года. Плаціць трэба будзе раз на год. Усім уласнікам будуць рассылаць паведамленні з падатковай інспекцыі. 2021 год будзе пераходным: аплата ва ўсіх будзе аднолькавая – 1 базавая велічыня, а ўжо ў 2022 годзе трэба будзе даплаціць падатак.

### Ад 1 студзеня на 10% падаражэе электрычнасць

Ад 1 студзеня павысілі тарыфы на электраэнергію – прычым як для тых, у каго газавыя пліты, так і для тых, у каго электрычныя. Рост складзе ў сярэднім каля 10%.

### Карпенка: Вядуцца работы па змене правіл прыёму ў ВНУ

Уступная кампанія 2021 года істотна не зменіцца. Аднак праца па змяненні правіл прыёму ўжо вядзецца. Пра гэта распавёў міністр адукацыі **Ігар Карпенка**.

Па словах міністра, акрамя спробы сумясціць нацыянальны экзамен у школе з ЦТ хоць бы па двух прадметах – мове (па выбары навучэнца) і матэматыцы, ёсць і іншыя запланаваныя новаўвядзенні. Напрыклад, разглядаецца магчымасць абітурыентам здаваць пры паступленні ў ВНУ ўнутраныя экзамены па профільных прадметах. Калі гэтыя змены будуць канчаткова прынятыя, то Мінадукацыі спатрэбіцца каля 1,5 – 2 гадоў, каб укараніць іх.

### Гранічныя мінімальныя цэны на алкаголь змяняюцца ад 1 студзеня

Мінімальная адпускная цана за 0,5 літра алкагольнага напою моцнасцю 40% складзе пяць рублёў і пяць капеек, рознічная – 6,68 рубля. На віны пладовыя мацаваныя марачныя, палепшанай якасці і спецыяльнай тэхналогіі ўстаноўлены кошт у памеры 3,09 рубля за 0,7 літра моцнасцю 18%. Раней яна складала 2,99 рубля.

**Паводле tut.by і БелТА.**

## Чытайце праз тыдзень:

- Пра пачуцці ад перамогі, любоў да педагогікі і сыход з любімай прафесіі, пра грамадскую дзейнасць гутарым з «Асобай года-2020» па версіі «Рэгіянальнай газеты» Вольгай Шостак.

## 9 студзеня, субота

**Вецер:** паўночна-заходні, 4 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я.** НАРАЧ

Мінімальная тэмпература -34°C у 1968 годзе
Максімальная тэмпература +8°C у 2005 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 8,9 мм у 2015 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Як вы адсвяткавалі Новы год?



**Дзмітры, Вілейка:**
– Вельмі добра, у сямейным коле.



**Кацярына, Вілейка:**
– Ніколі традыцыі не змяняю. Кожны Новы год сустракаю ў дамашняй абстаноўцы, з роднымі і блізкімі.



**Людміла, Вілейка:**
– Правялі Новы год разам з сям'ёй.



**Алена, Вілейка:**
– Для нас Каляды – гэта вельмі значнае і радаснае свята, таму і святкавалі яго адмыслова. А Новы год сустрэлі вельмі проста: традыцыйная сямейная страва – калдуны і невялічкае застолле.



**Ірына, Маладзечна:**
– Гэты Новы год вельмі добра адсвяткавалі, з суседзямі, ва ўтульнай сяброўскай абстаноўцы.



**Уладзімір, Вілейка:**
– На Новы год быў на працоўным месцы.



**Ігар, Маладзечна:**
– Зусім ніяк. Быў адзін дома, пасядзеў у камп'ютары, папіў кавы і каля дзвюх гадзін пайшоў спаць.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№2 (1341) 8.01.2021. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 21. Падпісана ў друк у 9.00 6.01.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама), **53-78-05** (журналісты), **53-78-06** (факс), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.**
Web: **https://rh.by.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.